PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 3667714

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 39 (1846) ГОД XXXVI БЕЛАСТОК 29 ВЕРАСНЯ 1991 Г. ЦАНА 1000 ЗЛ.

## *Беларусіяна на карце Беластока*



На карце Беластока можна знайсці з дзесятак вуліц, назвы якіх звязаны з гісторыяй, геаграфіяй і культурай Беларусі. Аб гэтых вуліцах будуць расказваць міні-фотарэпартажы Янкі Целушэцкага. У гэтым нумары ( на здымку на стар. 8 ) прэзентуецца вуліца Пінская.

*****************************************************

## СУДЗЯЦЬ ЗА ГРАБАРКУ



12 верасня 1991 года ў Ваяводскім судзе ў Беластоку распачаўся працэс 33-гадовага Яна С. — абвінавачанага ў надпаленні праваслаўнай царквы Праабражэння Гасподняга на Святой Гары Грабарка.

Акт абвінавачання супраць Яна С. скіраваў у Ваяводскі суд 31 мая 1991 года Раённы пракурор у Бельску-Падляшскім. Ян С. абвінавачаны ў тым, што 12 ліпеня 1990 года каля 23-ай гадзіны надпаліў на гары Грабарка будынак царквы Праабражэння Гасподняга з XVIII стагоддзя, у выніку чаго царква гэтая згарэла датла з усім, што ў ёй было. Дадаткова Ян С. абвінавачаны ў тым, што ў днях 10-14 ліпеня 1990 года зрабіў чатыры ўзломы на абшары гміны Нурэц-станцыя на школу фізічных асоб і Гміннага кааператыва ў Мельніку. Ян С. абвінавачаны таксама ў спаленні стога саломы ў Конскіх Гарах (гміна Мельнік) на шкоду Люцыяна Э. Матэрыяльныя страты, спрычыненыя пажарам царквы, ацэньваюцца на 2 мільярды злотых. Шкоды, спрычыненыя ў выніку іншых злачынстваў, ацэньваюцца прыблізна на 30 мільёнаў злотых.

12 верасня 1991 года а 9-ай гадзіне распачаўся ў Ваяводскім судзе допыт сведкаў у справе Яна С. Допыт гэты цягнуўся і 13 верасня. Сведкі, якія ў гэтых днях выступалі ў судзе, расказвалі пра ўзломы, спаленне стога саломы і пра пажар царквы. На 17 верасня Ваяводскі суд разаслаў быў паведамленні сведкам, якія схапілі Яна С. і даставілі яго ў арышт, — матэрыял гэты я здаю 16 верасня.

Яшчэ да пачатку працэсу абвінавачанага Яна С. даследавалі лекары-спецыялісты, якія не сцвердзілі ў яго псіхічнай, ці якой іншай хваробы, у сувязі з чым Ян С. у стане адказваць перад судом за ўсё ўчыненае.

У часе допыту 12 і 13 верасня абвінавачаны Ян С. паводзіў сябе так, каб як мага больш ускладніць правядзенне працэсу. Шмат разоў рабіў ён заявы, што не мае даверу да таго складу суда, у якім ён дапытвае сведкаў. Справу павінны павесці тыя асобы, якіх я назначу, казаў ён. Вядома, што ані ў Польшчы, ані ндзе ў свеце няма такога права, якое дазваляла б абвінавачанаму выбіраць склад суда. Заявы Яна С. былі адхілены.

У часе допыту шмат разоў здаралася і такое: калі вядучы суддзя звяртаўся да абвінавачанага, ці ёсць у яго нейкія пытанні да сведкі, той альбо рабіў сваю заяву, альбо пачынаў ні то выць, ні то спяваць на ўсю залу — страшна было гэта слухаць, а весці далей допыт зусім немагчыма. Вядучы суддзя загадваў тады, каб канваіры вывелі абвінавачанага з залы.

Выглядае, што працэс аб надпаленні царквы на Грабарцы будзе доўгі і марудны. Для прыкладу, адсутным 12 і 13 верасня сведкам суд разаслаў паведамленні на 1 кастрычніка 1991 года. Справядлівасць — яна прыдзе няхутка.

**Аляксандр Максімюк**

## У ШКОЛЕ У ДУБІЧАХ - ЦАРКОЎНЫХ

Надоечы дырэктар Гайнаўскага беларускага ліцэя Васіль Дамброўскі сказаў мне, што ўжо некалькі гадоў запар найлепшыя вучні ў ліцэй прыходзяць з Пачатковай школы ў Дубічах-Царкоўных. Калі надарылася мне нагода наведаць гэтую школу, паставіў я яе дырэктару Юрыю Нэстаруку пытанне пра рэцэпт на поспех у працэсе навучання.

— Вельмі прыемна пачуць такія словы, — гаворыць Юры Нэстарук, — яны заахвочваюць працаваць у будучыні яшчэ лепш. Ці ёсць у нас нейкі незвычайны рэцэпт на добрыя вынікі педагагічнай працы? Не, нічога нязвыклага няма, ёсць затое вельмі добрая атмасфера ў школе і дасканалыя настаўнікі (90 % з вышэйшай адукацыяй), моцна заангажаваныя ў сваю працу і самаахвярныя. Многія скончылі гэтую школу — шэсць асоб на 13-асабовыя кадры. Толькі ці доўга ўдасца ўтрымаць іх у вясковай школе?

А фінансавая сітуацыя школы нецікавая, зрэшты, як і ўсяе асветы. Аднак, дубіцкія настаўнікі пастанавілі, што агульная сітуацыя краіны не павінна закрануць іх выхаванцаў, а калі ўжо, дык у як найменшай ступені. Каб захаваць гурткі зацікаўлення і дзейнасць выхаваўчых арганізацый, настаўнікі працуюць на грамадскіх асновах. Бацькі таксама намагаюць у выпрацоўцы фінансавых сродкаў. У мінулым годзе, напрыклад, арганізаваліся патанцоўкі, за якія школа зарабіла 8 мільёнаў злотых. Грошы гэтыя спатрэбіліся на апаратуру відэа, якая выкарыстоўваецца ў дыдактычнай працы. Асаблівая дапамога ад яе ў навучанні нямецкае мовы.

У дубіцкай школе дзевяноста адно дзіця. У параўнанні з мінулым годам агульны лік вучняў паменшыўся на дваццаць асоб. Уся гміна пусцее. Становішча сельскай гаспадаркі цяпер незайздроснае, на вёсцы застаюцца адны старыя-пенсіянеры. У Дубіцкай гміне ўсяго тры школы, апрача гэтай, яшчэ ў Старым Корніне, дзе вучыцца каля 50-ці дзяцей, і ў Грабаўцы (48 вучняў). Школа ў Грабаўцы, ад гэтага года падпарадкаваная дырэктару ў Дубічах-Царкоўных, з'яўляецца ўсяго філіяльным пунктам, хаця і васьмікласная. Праўда, пустыя клас спалучаны з першым, пяты з шостым, а чацвертага ўвогуле няма. У Дубічах спалучаны другі і трэці класы.

( Працяг на стар. 4 )

*****************************************************

## ЗА НАВУКАЙ У БЕЛАРУСЬ

Беларускаму руху патрэбны высокаадукаваныя кадры з добрым веданнем беларускай мовы, гісторыі і культуры нашага народа. Умоў для такой адукацыі не ствараюць вышэйшыя навучальныя ўстановы ў нашай краіне і таму ўжо здаўна Беларускае грамадска-культурнае таварыства дабівалася ў міністэрствах Польшчы і Беларусі стварыць магчымасць накіроўваць частку выпускнікоў беларускіх ліцэяў у Бельску-Падляшскім і Гайнаўцы на далейшую навуку ў Беларусь. Такім чынам на Беласточчыну траплялі б спецыялісты з розных галін культурна-асветнай і грамадскай дзейнасці, якія б не толькі мерытарычна, але і духоўна былі падрыхтаваны да працы на беларускай ніве. Ранейшыя захады не давалі пажаданых вынікаў, а штудзіраваць у Беларусь па рэкамендацыі Беларускага таварыства выязджалі лічаныя адзінкі. За апошнія два гады сітуацыя рэзка памянялася. Аб гэтым нашым чытачам расказвае сакратар Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства Віктар Стахвюк:

— У мінулым годзе мы ўпершыню паспрабавалі накіраваць большую колькасць студэнтаў на навуку ў Беларусь. Тады накіроўвалі туды аднаго або двух чалавек у год. Добрым момантам было тое, што завязалася супрацоўніцтва паміж Беларускім таварыствам і Абласным аддзяленнем Савецкага фонду культуры ў Гродне, якое ўзначальвае Сяргей Габрусевіч — прарэктар Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы. Менавіта ён запрапанаваў прыняць на ўсе аддзяленні Гродзенскага універсітэта дзесяць чалавек. Гэтую ідэю ўдалося нам распрапагандаваць сярод вучняў нашых ліцэяў і арганізаваць кандыдатаў на навуку ў Беларусі. Пасля вялікіх цяжкасцяў удалося нам супольна пераадолець усе бюракратычныя фармальнасці ў міністэрствах і такім чынам у акадэмічным годзе 1990/1991 на навуку ў вышэйшых навучальных установах уладкавалася семнаццаць студэнтаў, у тым ліку шаснаццаць — без уступных экзаменаў. Каб выэлімінаваць усе мінулагоднія фармальныя цяжкасці, мы раней пачалі рыхтавацца да гэтай справы.

У снежні 1990 года я завёз у Мінск нашу прапанову прыняць на навуку на розных напрамках 50 студэнтаў у год.

( Працяг на стар. 2 )




## АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

— 56 —

Сярод добрых спонсараў Беларускага музея знаходзіцца таксама Фонд беларускай культуры ў Мінску. Галоўныя кіраўнікі гэтай установы Іван Чыгрынаў і Валеры Скварцоў праявілі нямала добрай волі і энергіі для рэалізацыі ідэі дапамогі пры пабудове музея. Цяжка было пералічыць усе праявы матэрыяльнай падтрымкі, бо было іх вельмі многа. Хацеў бы я тут затрымацца выключна на перыядзе, які папярэдзіў адкрыццё Беларускага музея восенню 1990 года. Бадай што на два тыдні перад адкрыццём прыехала да нас прадстаўнік фонда Таццяна Гаранская, спецыяліст у галіне музейнай справы. Запамятаўся мне надоўга сход у памяшканні БГКТ, які адбыўся пасля таго, як спадарыня Гаранская наведала будынак музея, які меў быць адкрыты праз два тыдні. Пасля выступлення Гаранскае, апанаваў мяне ды і іншых панічны страх. Даказала яна чорна на белым, што будынак абсалютна пакуль што не падрыхтаваны да таго, каб можна было ў ім адкрываць музейную экспазіцыю. Спадарыня Гаранская ўзяла кусок паперы і тут жа на вачах усіх нанесла на лісток каля трыццаці пунктаў, у якіх гаварылася аб амаль трыццаці канкрэтных задачах, якія мусілі быць тэрмінова выкананы для таго, каб адкрыццё музея магло адбыцца. Размер і характар заданняў быў такі вялікі і скамплікаваны, што я, ды і не толькі я, спалохаліся, не верачы ў магчымасць іх выканання. Праўда, Гаранская адразу заданні раздзяліла на дзве групы, сказаўшы, што палову з іх бярэ на сябе Фонд культуры, а палову Камітэт пабудовы музея і Беларускае таварыства. І тут спадабаліся мне гайнаўскія актывісты Я. Хіліманюк, М. Мікалаюк, А. Іванюк і іншыя, якія катэгарычна заявілі, што такі аб'ём работ у ніякім выпадку не выканае К. Майсеня і што абавязкова трэба падзяліць адказнасць і звязаць яе з паасобнымі дзеячамі. Так яно і сталася. І тут закіпела работа. Трэба сказаць добрае слова ў адрас дырэктараў беларускіх ліцэяў у Гайнаўцы і Бельску-Падляшскім — А. Іванюка і А. Карпюка, якія піхнулі вялікія групы школьнай моладзі для парадкавання толькі што адрамантаванага будынку, які быў завалены грузам, шчэпкамі і розным хламам. Цяжкая гэта была работа, але і вялікай была радасць, калі ўжо пасля некалькіх дзён напружанага калектыўнага высілку змяніўся радыкальна характар нутра будынку і яго наваколля.

Такім чынам будынак быў падрыхтаваны да арганізацыі выстаўкі. І тады перайшоў у наступ Фонд культуры ды ізноў спадарыня Гаранская. Прыслалі яны вялікую групу мастакоў, якія прыступілі да рэалізацыі пунктаў стратэгічнага плана, накрэсленага Гаранскай. Быў я ў гэтыя напружаныя дні ў Гайнаўцы і прыглядаўся да прыгожага высілку мастакоў, якія прывезлі вялікую колькасць сваіх карцін.

Яшчэ напярэдадні адкрыцця нутро будынку выглядала, як Мамаева пабоішча. Хапіла, аднак, гэтых прыгожых і ахвярных людзей, каб на працягу адной ночы хаосператварыць у прыгожы лад і парадак.

У дзень адкрыцця сабралася многа народу. Майсеня прывітаў гасцей і перадаў мне голас. І я, як бы і вопытны ў такіх справах чалавек, расхваляваўся. Але гэта можа і добра. Лёгкі нервовы стрэс дапамагае гаварыць. Падкрэсліваючы веліч ідэі пабудовы музея, я гаварыў аб тых прыгожых людзях, якія, нягледзячы на месца свайго жыхарства, унеслі вялікі ўклад у пабудову музея. Выразіў шкадаванне, што няма сярод нас прадстаўнікоў эміграцыі, якая першай адазвалася і дапамагала музею. Асудзіў тут нашых мясцовых дзеячоў, якія не толькі не памагаюць, але і перашкаджаюць справе пабудовы музея.

А пад час банкета ўзнёс тост у гонар гасцей з Беларусі, сказаўшы, што Бог стварыў з хаосу сусветны лад на працягу шасці дзён, а яны стварылі з хаосу прыгожы беларускі свет — музей на працягу адных сутак. Праўда, у гэтым была значная гіпербаліка, але ёсць праўда, што пасланцы Фонду беларускай культуры зрабілі нешта такое, што гранічыла з цудам.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

*****************************************************************************************

## З мінулага тыдня

**Рэспубліка Беларусь** - гэта афіцыйная назва беларускай суверэннай дзяржавы. Рашэнне аб новай назве дэпутаты Вярхоўнага Савета прынялі на пасяджэнні 19 верасня. Y гэты дзень дэпутаты прагаласавалі таксама за ўнясенне паправак у артыкулы 168 і 169 Канстытуцыі БССР і замацаванне новай сімволікі: **Ігерба Пагоня і бел-чырвона-белага сцяга.**

**Міністр замежных спраў Кшыштоф Скубішэўскі** так пракаментаваў у газеце „Rzeczpospolita" сітуацыю польскай меншасці ў Літве: „Не ўваходжу ва ўнутраныя справы Літвы і ў гэта ўрад Польшчы ўмешвацца не будзе, але лічым, што пазбаўленне палякаў такіх ці іншых органаў робіць іх безабароннымі пры абароне сваіх інтарэсаў. Гэту абарону палякі патрабуюць. І таму я прадставіў канкрэтныя прапановы, каб уладвы Літвы адтэрмінавалі выкананне сваіх рашэнняў".

**З удзелам прэм'е-міністра Яна Кшыштофа Бялецкага** адбылася ў Белай-Падляшскай сустрэча ваяводаў з усходніх ваяводстваў краіны (Белая-Пдляшская, Беласток, Холм, Кросна, Пярэмышль, Сувалкі і Замасць). Прысутнічалі таксама прадстаўнікі Галоўнай мытнай управы і Галоўнай камендатуры Гранічнай стражы. Мэта сустрэчы — забяспечыць правільнае функцыянаванне гранічнага руху і пашырыць гаспадарчае супрацоўніцтва з усходнімі суседзямі.

**Каардынацыйная камісія яўрэйскіх арганізацый у Польшчы** перадала агенцтву ПАП заяву, у якой катэгарычна пратэстуе супраць антысеміцкіх эксцэсаў, праявам якіх апошнім часам была спроба атакі на ўваход у сінагогу імя Ножыка ў Варшаве ў час малітвы. Здарылася гэта на другі дзень пасля выступлення ў тэлевізійнай выбарчай студыі прадстаўнікоў Нацыянальнай партыі.

**У выбарчай акрузе н-р 25** (Беластоцкае і Сувальскае ваяводствы) **зарэгістравана 236 кандыдатаў у паслы на 28 спісках.** Паўторна атрымаць пасольскі мандат стараюцца сем кандыдатаў: **Уладзімір Цімашэвіч і Януш Шыманскі** (Левы дэмакратычны саюз), **Аляксандр Малахоўскі** (Салідарнасць працы), **Ежы Слезак** (Дэмакратычная партыя), **Яўген Чыквін** (Выбарчы камітэт праваслаўных), **Кшыштоф Путра** (Грамадзянскае пагадненне Цэнр) і **Аляксей Семянюк** (ПСЛ — Праграмны Саюз).

**У Крынках банкрутуе ПГР** (саўгас). Прадпрыемствам гэтым зацікавіўся Джаніні Санціні — прадстаўнік фірмы „Канкордыя" з Мілана, які пасля візіту ў Крынках пажадаў яго купіць. Прыгадаем, што Крынкі багатыя залежамі мінеральнай вады і ПГР прадукаваў папулярную не толькі на Беласточчыне ваду „Крынка". Італьянская фірма плануе пабудаваць тут сучасную фабрыку напіткаў тыпу „пепсі" і „цытрон".

## ЗА НАВУКАЙ У БЕЛАРУСЬ

**( Працяг са стар. 1 )**

Гэты лік не выдаўся мінскаму боку перавышаным. Я потым зразумеў, чаму так сталася. Ужо тады польскі бок запрапанаваў узяць звыш 150 чалавек з польскага асяроддзя на Беларусі на навуку ў польскія вышэйшыя школы. Запрапанаваны мною лік, тады гіганцкі на маю думку, быў сустрэты з прыхільнасцю. У нашых школах началі мы весці ўступную рэкрутацыю. Меркавалі, што з абодвух ліцэяў назбіраецца каля сарака ахвотных, але потым аказалася, што не будзе іх больш, чым дваццаць асоб.

У канцы студзеня 1991 года ў Мінску прайшлі размовы паміж прадстаўнікамі беларускіх арганізацый Беласточчыны і дэпутатамі Вярхоўнага Савета БССР, прадстаўнікамі міністэрстваў народнай адукацыі, культуры і замежных спраў, Беларускага фонду культуры, Таварыства беларускай мовы і Мінскага бацькоўскага камітэта. У сустрэчы ўдзельнічала намеснік міністра народнай адукацыі Людміла Сухнат. Наш бок ставіў перш за ўсё праблему школьніцтва. Даведаліся мы, што Міністэрства народнай адукацыі не ў стане задаволіць усе нашы патрабаванні таму, што не ўсе вышэйшыя навучальныя ўстановы яму падначалены. Гэтаму міністэрству падлягаюць толькі педагагічныя інстытуты і універсітэты, а ўсе інстытуты культуры, медыцынскія і політэхнічныя ўстановы знаходзяцца ў распараджэнні іншых міністэрстваў.

24 сакавіка 1991 г. я меў магчымасць размаўляць у Мінску з намеснікам старшыні Савета Міністраў БССР Нінай Мазай. Гэту размову наладзілі мне прадстаўнікі парламенцкай апазіцыі Лявон Баршчэўскі і Уладзімір Новік. Падчас размовы падтрымку нашым прапановам аказалі і Уладзімір Новік, і загадчык аддзела Савета Міністраў па справах адукацыі Генадзь Галіноўскі. Аказалася, што Генадзь Галіноўскі вельмі станоўча аднёсся да нашай справы і праз сваіх працаўнікоў, а перш за ўсё праз свайго памочніка Барыса Іванова, падрыхтаваў нам грунт да размоваў з іншымі міністэрствамі. Вынік усіх размоваў быў такі, што міністэрствы загарантавалі нам у 1991/1992 г. месцы ў сваіх ВНУ: Міністэрства аховы здароўя — 4, Міністэрства культуры — 5, Міністэрства сельскай гаспадаркі — 2, Дзяржаўны камітэт спорту — 2 і Міністэрства народнай адукацыі — 20. Разам мы прыдбалі 33 месцы для нашых студэнтаў. У дамове запісана, што беларускі бок дае нашым студэнтам стыпендыю не меншую чым савецкім і магчымасць закватаравацца ў інтэрнаце. Наш бок абавязаны трымаць пастаянны кантакт у справе нашых студэнтаў — цікавіцца імі і дапамагаць вырашаць іх справы.

Пасля праведзенай рэкрутацыі на гэты акадэмічны год мы накіравалі ў Беларусь 24 асобы. У ліку гэтых студэнтаў трое не з'яўляецца выпускнікамі беларускіх ліцэяў, але яны беларускай нацыянальнасці. Лічу гэта першым крокам да таго, каб у будучыні вучні сярэдніх школ з Беластока, Сямяціч, Гарадка, Міхалова і іншых гмін, якія не вучацца ў беларускіх ліцэях, а ведаюць беларускую мову, маглі штудзіраваць у Беларусі. Я думаю, што лік студэнтаў будзе павялічвацца і мы дзеля гэтага зрабілі адпаведныя крокі ў міністэрствах.

У справе набору студэнтаў трэба многае змяніць. Пасля чэрвеньскай канферэнцыі настаўнікаў у Бельску-Падляшскім (адбылася яна 14.06.) стварылася пастаянная камісія для кантактаў з Куратарыяй і яна павінна гэтай справай заняцца. У рэкрутацыйную камісію павінны ўвайсці настаўнікі, дырэктары школ і грамадскія дзеячы. Рэкрутацыя павінна закончыцца ў маі, каб не было такіх сітуацый, што тыя хто не здаў экзаменаў у польскія школы, раптам захацелі вучыцца ў Беларусі. Узровень у беларускіх школах даволі высокі і адпаведныя кандыдаты знойдуцца, тым больш, што навука ў Беларусі прыходзіцца намнога танней, чым у нас.

Пасля кастрычніцкіх выбараў збярэм камісію і запросім у нашы ліцэі прадстаўнікоў міністэрстваў з БССР на сустрэчы з моладдзю, на якіх можна будзе даведацца аб кірунках і ўмовах навукі. Думаю, што ў наступным годзе будзем мець не менш 33 месцаў, а калі будзе такая патрэба, то і больш.

Запісаў **В. Луба**

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ „У НІВЕ"

* Рэпартаж з фестывалю „Беластоцкія мальвы".
* З пасяджэння Прэзідыума ГП.
* Кандыдаты БВК: Ян Чыквін, Міраслаў Целушэцкі і Пятро Крук.
* Літаратурная старонка „Белавежа".
* Яшчэ аб Антону Луцкевічу.

# НАШЫ КАНДЫДАТЫ

**ВАСІЛЬ ДАМБРОЎСКІ — нарадзіўся ў 1958 годзе ў Пуцісках каля Гайнаўкі, у сялянскай сям'і. Вучыўся ў беларускім ліцэі ў Гайнаўцы, у 1980 годзе закончыў юрыдычны факультэт, у 1985 нямецкую філалогію. Ад 1984 года працуе ў Гайнаўскім беларускім ліцэі настаўнікам нямецкае мовы, яголыя вучні адны з найлепшых у краіне. У красавіку г.г. абраны дырэктарам ліцэя. Ад чэрвеня г.г., як адзін з 10 настаўнікаў у краіне, апрацоўвае канцэпцыю швейцарскай дапамогі польскаму школьніцтву.**



## ЗАМАЛА ЎВАГІ ШКОЛЬНІЦТВУ

„Ніва": — *Дырэктарам Вы сталі зусім нядаўна, усяго паўгода таму. Раней працавалі настаўнікам нямецкае мовы, ведаю, што дабіліся немалых поспехаў у сваёй працы.*

Васіль Дамброўскі: — Мае вучні належалі на працягу апошніх сямі гадоў да сарака найлепшых у краіне, атрымоўвалі стыпендыі. Цяпер у нашым ліцэі вельмі добрыя ўмовы для навучання замежных моў, праз некалькі дзён будзем мець лабараторыю, як адзіная, думаю, школа ў ваяводстве. Нядаўна я заангажаваўся ў такую двухгадовую праграму дапамогі Швейцарыі польскаму школьніцтву. Удзел у працах камісіі прымае 10 настаўнікаў з цэлае Польшчы, ну, і я ўваходжу ў гэтую групу.

— *Што гэта абазначае для школы?*

— Гэта значыць тое, што наша школа ў наступным годзе, як адна з дзесяці ў Польшчы, атрымае падручнікі па нямецкай мове, а таксама іншыя навуковыя дапаможнікі.

— *Вы рабілі ксераграфічныя паслугі, паказалі, што школа можа на сябе зарабіць.*

— **У гэтым годзе выйшлі адпаведныя ўрадавыя распараджэнні, якія дазваляюць школам зарабляць грошы** (арганізаваць розныя курсы, праз выдавецкую дзейнасць, ці іншым спосабам). Мы пачалі весці **ксераграфічныя паслугі ўжо раней, я** вымусіў гэта, практычна, у мінулым годзе. Вёў я таксама курс і плаціў школе. У суме школа зарабіла на гэтым 7—8 мільёнаў.

— *Які найбольшы клопат дырэктара?*

— Найважнейшая для нас цяпер справа гэта пабудова новага ліцэя, бо будынак, у якім працуем, сыплецца ад старасці. У мінулым годзе міністр адукацыі прызнаў нам 300 мільёнаў злотых на выкананне праекта новага ліцэя, але даў іх не нам, а куратарыі. І праз гэта паявіліся спазненні. Два тыдні таму назад правёў я размову і з куратарам, і з міністрам. Міністр надалей прыхільна ставіцца да справы пабудовы новага ліцэя, але пакуль што праект не гатовы. Чаму? Таму, што куратар доўгі час не плаціў 65 мільёнаў за працы, якія праектнае бюро выканала яшчэ ў маі. З куратарам атрымалася ў мяне даволі вострая размова, аднак усё закончылася добра, тыдзень пасля нашай размовы куратар пераказаў праектнаму бюро грошы. Там мне сказалі, што дзесьці за месяц падрыхтуюць праект. Яшчэ ў гэтым месяцы збіраюся ехаць у міністэрства, пабачым, ці грошы на падрыхтоўку пабудовы будуць ужо ў гэтым годзе, ці давядзецца чакаць да сакавіка-красавіка наступнага. Але справа ў далейшым таксама няясная, я ўжо раіўся з настаўнікамі, ці браць на сябе ролю інвестытара. Бо калі інвестытарам будзе куратар і міністэрства дасць грошы, тады ён зноў можа іх свабодна пераказваць, дапусцім, на ліцэй імя кс. Папялушкі ў Сухаволі, як гэта зрабіў з двума мільярдамі злотых у гэтым годзе.

— *Калі б Вы сталі паслом у Сейм, што хацелі б зрабіць для беларусаў Беласточчыны?*

— Рабіць напэўна ёсць што. Вазьміце такі 250-тысячны Беласток, палічыце, колькі ў ім сярэдніх школ і параўнайце гэта з беларусамі Беласточчыны, якіх таксама звыш дзвюхсот. А ў іх усяго паўтары сярэднія школы. Гавару паўтары, бо сваю лічу толькі за палову. З увагі на ўмовы не можам ахапіць навучаннем усіх дзяцей гайнаўскіх беларусаў. У суседнім, польскім ліцэі 65% — беларусы. У гэтым годзе, я гаварыў пра гэта міністру, больш за сто выпускнікоў гайнаўскіх пачатковых школ не знайшлі месца ў мясцовых сярэдніх школах. Яны вымушаны падавацца далей, у Беласток, ці ў іншыя гарады, такім чынам напэўна будуць пазбаўлены магчымасці вывучаць беларускую мову. Міністр пагадзіўся, што гэта важны аргумент, каб будаваць беларускі ліцэй.

У нас справа адукацыі ўвогуле патрабуе зменаў. Да мяне ў ліцэй прыходзіць моладзь, якая толькі тут пачынае вывучаць беларускую мову, а трэба пачынаць нават не з другога класа пачатковай школы, а з садзіка. Гэтага нідзе няма. Я нават гаварыў з палякамі ў Гайнаўцы, ці яны былі б супраць таго, каб іхняе дзіця вярнулася з садзіка і пахвалілася, што вывучыла беларускую песню. Падыход да мовы змяніўся б, змянілася б таксама атмасфера.

— *Вы, адным словам, трымаецеся свайго панадворка, асветы.*

— Не, не абавязкова, можам пагаварыць і на іншыя тэмы. Але я лічу, што праблемы школьніцтва ў нас замала заакцэнтаваныя. Вазьміце, для прыкладу, праграму Беларускага выбарчага камітэта, там падкрэсліваецца важнасць такіх пытанняў, як гаспадарка, культура, рэлігія, затое недастаткова, на мой погляд, школьніцтва. І „Ніва" пра гэта мала піша. У апошніх нумарах паяўляліся па два-тры матэрыялы пра Беларускі музей у Гайнаўцы, я не супраць музея і нідзе супраць яго пабудовы не выступаў, але пра школьніцтва нічога няма. А праблем жа шмат, пачынаючы ад садзікаў, канчаючы на пабудове нашага ліцэя.

---

**АННА КЛІМЮК — нарадзілася ў 1956 годзе ў вёсцы Канюкі, гміна Заблудаў. Закончыла эканамічны тэхнікум, сельскагаспадарчую студыю і курс судовага эксперта па справах гаспадарчых злачынстваў. Была прысяжным лаўнікам суда ў Бельску, раднай горада Бельск, у апошніх выбарах кандыдавала на радную з Беларускага выбарчага камітэта. Працуе ў беластоцкай суполцы „Мастэрс" кіраўніком крамы і гуртоўні ў Бельску-Падляшскім.**



## У ГАНДЛІ НЕЛЬГА СПАЦЬ

„Ніва": — *Скажыце, калі ласка, як Вы сталі кіраўніком крамы?*

**Анна Клімюк:** — Раней я працавала ў ПКС-е інспектарам агульнай секцыі. Працавала там ад 1984 года, а сёлета пайшла на брук, прычым мой штат не скараціўся, на маё месца была прынята іншая асоба. Была я звольнена разам з групай людзей, усяго 18 чалавек (так дзіўна склалася, што ўсе яны праваслаўныя), 30 сакавіка, а ўжо ў красавіку мела новую працу. Прыняў мяне Мікалай Стэц, дырэктар беластоцкай суполкі „Мастэрс", якая мае оптавы склад піва, віна і іншых напіткаў. Крама, якой я кірую, таксама належыць да гэтай суполкі.

— *Якая гэта крама, што вы прадаеце, колькі працуе ў вас людзей?*

—Крама наша знаходзіцца на вул. 11 Лістапада 10, у ёй працуе пяць чалавек, прадаем харчовыя прадукты. Маем шырокі асартымент тавараў, ад вяндліп па розныя салодкія ласункі, але найбольш грошай зарабляем на продажы піва. Маем таксама віно, але выключна добрае і, зразумела, дарагое, таму людзі бяруць яго менш. Ад самой крамы важнейшы наш оптавы склад, які маем тут у Бельску. Мы забяспечваем таварамі многа крамаў у Бельску і ваколіцы.

— *Якія Вашыя абавязкі як кіраўніка крамы і складу?*

На маёй галаве цэлая дакументацыя, штодзённыя рапарты, матэрыяльная адказнасць. Я, практычна, займаюся ўсім, я і кіраўнік, і аквізітар, вышукоўваю тавары, купляю іх, прывожу, развожу — увесь час у руху. Працую ад 5-ай гадзіны раніцы да 7-ай, 8-ай увечары. Але ў гандлі, каб нечага дабіцца, спаць нельга. Трэба наперад ведаць, якія тавары пойдуць, а што будзе ляжаць на складзе. Трэба таксама, безумоўна, любіць гэты занятак, бо інакш цяжка вытрымаць такую нагрузку. Я задаволена сваёй працай, ну, праўда, зарабляю не малыя грошы.

— *Можна ведаць, колькі?*

— Чатыры-пяць мільёнаў, я лічу, што як на нашыя ўмовы, гэта не мала. Але я і стараюся працаваць як найлепш, думаю, што эфекты маёй працы відавочныя. Калі я прыйшла сюды, на гуртовым складзе было тавараў усяго на 65 мільёнаў, а цяпер наш месячны абарот — каля 320 мільёнаў.

— *Якія найбольшыя цяжкасці ў Вашай працы і якія перспектывы на будучыню?*

— Самая вялікая перашкода для гандлю — недахоп грошай. Цяпер якраз такая сітуацыя, што людзі маюць усё менш і менш грошай. Яшчэ ў горадзе выглядае гэта крышку лепш, але на вёсцы сітуацыя зусім трагічная. За малако людзям не плацяць, жывёлы не бяруць, бульбы, збожжа няма дзе прадаць. На вёску тавараў ужо не дасі. У самым Бельску паявілася ў апошнім часе іншая небяспека — занадта ўтварылася крамаў, завялікая канкурэнцыя. Людзі маюць такі дзіўны склад думкі : калі камусьці аднаму нешта ўдасца, усе кідаюцца яго следам і такім чынам зарэзваюць увесь гандаль. Так сталася, напрыклад, з будкамі з півам, якія выраслі бы грыбы пасля дажджу. Якія перспектывы для прадпрыемства, цяжка мне сказаць. Я сама думаю папрацаваць яшчэ нейкі час, прызапасціся грашмі і досведчаннем, і адчыніць уласны бізнес, найхутчэй будзе гэта нейкая гуртоўня. Ну, але гэта планы на далейшую будучыню і з іх можа нічога не выйсці. Мо жа ж аказацца так, што трэба будзе пайсці на „курапёўку".

— *Які бізнес мае будучыню ў нашым сельскагаспадарчым рэгіёне?*

— Будучыню мае, перад усім, здаровы розум. Паглядзіце, што ў Бельску нічога не будуецца. А чаму тут не стварыць сетку перааапрацоўчых прадпрыемстваў, чаму не пабудаваць бровар? У нашых крамах ёсць піва з Гданьска, Кракава, ці іншых гарадоў, а транспарт жа каштуе. Але так робіцца заўсёды, калі на кіраўнічых пасадах патрабуюць людзей з дыпломамі, а не з досведчаннем, з галавою.

— *Дзякую за размову.*




### Ідзем разам, але куды?

Спадар Янка Жамойцін мяне пераканаў. Прачытаўшы ягоны тэкст „Беларусам ісці разам" („Ніва" н-р 37), зразумеў я сваю нікчэмнасць і амаль не кінуўся быў да тэлефона, каб званіць і прасіць прабачэння ва ўсіх, хто мог бы адчуваць сябе пакрыўджаным зместам артыкула „Куды ісці беларусам" („Ніва" н-р 32). І толькі страх перад банкруцтвам з увагі на высокі кошт эксплуатацыі тэлефона паўстрымаў мяне ад гэтага кроку.

Абурыліся ветэраны беларускага руху і я іх разумею, хаця сапраўды шчыра жадаю ім, каб іхнія старыя арганізацыі і арганізацыі толькі што створаныя існавалі ды вялі далей сваю дзейнасць у карысць усім беларусам. (Спадару Янку Жамойціну пры нагодзе паясняю, што я не адкрываў ніякай сенсацыі, а толькі прадстаўляў свой пункт гледжання на прычыны сучаснага крызісу ў БГКТ).

Абурыўся таксама і Генік Чыквін, хоць здаецца, што крыніца ўсяго скандалу з уніяй у тым, што памыліў ён пункт гледжання БДА з БНФ у галіне канфесійных спраў. БДА і БНФ — гэта арганізацыі, якія дзейнічаюць у розных краінах і ў розных умовах. Мая віна ў тым, што ягоную несарыентаванасць я ўспрыняў як злую волю, а нават як інструмент у палітычнай гульні.

Аказваецца, што ў сапраўднасці ўсе куды дастайнейшыя, чым мне здавалася.

На здзіў мне абурыліся нават некаторыя мае калегі з БДА, выказваючы мне жаль, што не ашчаджаю нават сваю арганізацыю ды стаўлюся да яе без аніякай палёгкі. У некаторых было такое ўражанне, што Аб'яднанне — гэта лайдацтва, перамешанае з добрасумленнасцю.

Шаноўныя спадары ідэалісты! Кожную палітычную арганізацыю ствараюць людзі, сярод якіх ёсць рамантыкі і цынікі, ураўнаважаныя і шаленцы, высакародныя і кар'ерысты, круцялі і тыя, якія няшмат гавораць, а выконваюць асноўную працу. Калі ў арганізацыі ёсць усе гэтыя гатункі і сама менш талеруюцца — усё ў парадку. Але, калі застанецца толькі адна група, прыкладова рамантыкі, гэта абазначае, што альбо ўзніклі таталітарныя структуры, альбо арганізацыя пераўтварылася ў фалькльорную групу. Нам пагражае толькі той другі варыянт.

Спадар Жамойцін, праўдападобна, мае рацыю, пішучы пра агрэсіўнасць дзеячоў БДА, а таксама і тады, калі ставіць мне яшчэ шмат якія горшыя закіды. Аднак, спадар Жамойцін бачыць перспектыву, стоячы на адным і тым жа месцы. І з гэтага месца, якое ён сабе выбраў, так яно выглядае. Аднак, ужо імпрэсіяністы даўно даказалі, што гледзячы нават з аднаго пункту, некалькі асоб бачыць зусім іншую фізікальную рэчаіснасць, а каб было яшчэ смяшней, то адна і тая ж асоба аднаго дня бачыць колеры і кшталты іншыя, чым на дзень раней альбо пазней, вядома ж, не змяняючы месца, з якога ўсё гэта аглядае. Аказваецца, што ўплыў на такі стан маюць нашы недасканалыя пачуццёвыя органы, а таксама, а можа і перад усім, наша нервовая сістэма.

Нясмела прапаную спадару

( Працяг са стар. 5 )



Свойскія малюнкі



*Беласток. „Палац Браніцкіх".*
Мал. У. Петрука.

********************************************************************

# У ШКОЛЕ Ў ДУБІЧАХ - ЦАРКОЎНЫХ

**( Працяг са стар. 1 )**

Да Дубіч давозяць дзяцей з такіх вёсак: Старына, Вілюкі, Доўгі Брод, Круглэ, Чэхі-Арлянскія, Рудка,Істок. Пакуль што, на верасень, грошы на транспарт ёсць, але што будзе далей? Пэўна, давядзецца бацькам далажыць са свае кішэні. Грошы патрэбныя будуць таксама на ўтрыманне сталоўкі — прынамсі палова вучняў, асабліва тых, якія даязджаюць, абедае ў школе.

Справа з навучаннем беларускай мовы заўсёды выглядала тут добра. Настаўніца мовы Галіна Трашчотка сказала, што ў мінулым годзе вывучала яе 99 % дзяцей. А ў гэтым годзе нешта папсавалася, бацькі збунтаваліся, ці як. Калі на цэлую школу толькі чацвёра дзяцей не вучылася беларускай мове, дык сёлета на сямёра вучняў другога класа бацькі шасці заявілі, што не будуць пасылаць сваіх дзяцей на гэты прадмет. Паводле распараджэння міністра адукацыі, калі паступіць пісьмовая заява бацькоў аб вызваленні іхніх дзяцей ад неабавязковых заняткаў (а такая беларуская мова), нельга нічога зрабіць. Раней можна яшчэ прасіць. І дырэктар прасіў, толькі ці будуць ст аноўчыя эфекты?

„Мова гэта падстава ўсяе культуры, яе заняпад сведчыць пра трагічную сітуацыю народа, — гаворыць дырэктар Нэстарук, — шкада, што людзі гэтага сабе не ўсведамляюць".

З навучаннем рэлігіі затое клопатаў няма ніякіх. Праваслаўны святар Рыгор Асташэўскі вядзе заняткі на роднай мове, так як гавораць дзеці ў сваіх дамах. Лічыць ён, што добра сталася, калі Божы закон вярнуўся ў школу. Раней вывучала яго менш за 50 % дзяцей, а цяпер практычна ўсе. „Прымусу ніякага няма, я толькі на пачатку навучальнага года сказаў, што кожны чалавек трымаецца свае рэлігіі і мы, праваслаўныя, таксама павінны шанаваць сваю веру, павінны яе пазнаць. Дзеці вучацца вельмі ахвотна, ды і мне праца з імі дастаўляе многа радасці".

У школе ёсць некалькі асобаў каталіцкага і пратэстанцкага веравызнанняў. Да каталікаў прыязджае ксёндз з Кляшчэляў. Пратэстанты навучання свае рэлігіі не маюць

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

********************************************************************

# МАКСІМ БАГДАНОВІЧ
## ЛІТАРАТУРНЫ КРЫТЫК І ПУБЛІЦЫСТ

**II. Максім Багдановіч аб Беларусі**

Амаль адначасова з крытыкай Максім Багдановіч пачаў цікавіцца таксама гісторыяй беларускай літаратуры. У 1910 г. напісаў артыкул пра творчасць Янкі Лучыны („І. Неслухоўскі"), у 1911 г. працы — „Кароткая гісторыя беларускай пісьменнасці да XVI сталецця", нататкі аб беларускай літаратуры XIX ст. „За сто лет".

Гэтымі працамі і крытычнымі аглядамі Багдановіч закладваў навуковыя падваліны гісторыі роднай літаратуры. Калі да яго большасць вучоных глядзела на беларускую літаратуру як на абласную рускую ці польскую, дык ён адным з першых зірнуў на яе як на асобную беларускую нацыянальную літаратуру.

Артыкул „Кароткая гісторыя..." узнімаў і вырашаў шэраг пытанняў старажытнай літаратуры. Ён, мабыць, паставіў першы пытанне аб літаратуры Кіеўскай Русі як калыскі трох братніх літаратур — рускай, украінскай і беларускай. На перспектыўныя пазіцыі стаў ён і пры агульным асвятленні гэтага перыяду, падзяліўшы пісьменнасць яго на дзве плыні — з твораў на царкоўнаславянскай мове і з твораў, што ўзніклі „з цёмных глыбінь народнай творчасці".

Багдановіч не пакінуў па-за ўвагай аніводнага значнага факта з гісторыі беларускай старажытнай літаратуры, а яго ацэнкі сваёй сцісласцю здзіўляюць і сёння.

Пішучы нарыс, крытык у многім карыстаўся працай Яўхіма Карскага „Беларусы". Вядома гэта з яго ліста ў рэдакцыю „Нашай нівы" ад 5.IX.1911 г., у якім пісаў: „Пішу нарыс даўнейшай беларускай пісьменнасці па Карскаму, як рэферат да нашага будучага яраслаўскага гуртка". Багдановіч сцвярджаў, што беларускі народ у „даволі ўстойлівую форму" склаўся „ужо к канцу трынаццатага сталецця". Падобна ж думаў Яўхім Карскі: „усе галоўныя асаблівасці сучасных беларускіх гаворак у большай ці меншай ступені склаліся не пазней XIII ст.". Услед за Карскім узнікненне старажытнай беларускай мовы Багдановіч таксама звязваў з раз'яднаннем усходнеславянскіх плямёнаў, з нашэсцем татара-манголаў і з захопам зямель дрыгавічоў, крывічоў, радзімічаў літоўскімі феадаламі. Так як і Карскі, Багдановіч вылучаў у канцы XIII-XIV ст. два цэнтры, вакол якіх ішло ажыўленае палітычнае і культурнае жыццё, называючы імі Маскву і Вільню.

Не без цікавасці для сённяшняга чытача з'яўляюцца разважанні Багдановіча аб славутым „Слове аб палку Ігаравым".

Даўшы кароткую даведку аб гісторыі адшукання гэтага помніка, Багдановіч, як і сённяшняе літаратуразнаўства, часам яго ўзнікнення вызначыў XII ст., месцам — паўднёвую Русь. Вельмі ж арыгінальныя яго выказванні аб форме твора. Яна здалася яму „неакуратна злепленай з рознаколерных, незалежных адзін ад аднаго кавалкаў, з'яўляўшыхся ў розныя часы і розных месцах". Сцвердзіў мастацкую неаднароднасць твора. Падкрэсліваў уплыў народнай мовы на ўзровень „Слова...". „(...)Пабачыўшы тое, што дала народная гаворка для нашай пісьменнасці, — звярнема ўвагу і на другую яе часць, уфундаваную ўжо на „общерусской" царкоўнаславянскай мове. Першае, што тут кідаецца ў вочы — гэта брак паэтычных твораў, усюды раджаючыхся толькі ў кашульцы роднага слова. Гляньма шырэй — і бачым агульную кволасць пісьменніцкай творчасці, заглушанай чужым, мёртвым языком, каторы, як

## ТУРЫСТ САМ РАЗБЯРЭЦЦА?

Пры канцы сёлетняга сезона ў Белавежы з'явілася ў продажы серыя (11 штук) паштовак, якія прадстаўляюць краявіды і паасобныя аб'екты з Белавежскай пушчы. Аўтарам здымкаў з'яўляецца Кшыштаф Вольфрам, а выпусціла серыю выдавецтва „Лук" (з Беластока?). Паштоўкі рэкамендуюцца нам цікава, і папера не найгоршая, але ўжо інфармацыйныя надпісы могуць давесці да роспачы. Яны не толькі крайне лаканічныя, але і ў многіх выпадках памылковыя. Прыклады?

Вось паштоўка з двума дубамі, якія растуць на Белавежскай паляне. Надпіс жа ўнушае, што гэта адзін дуб, што ён расце ў Белавежскім нацыянальным парку і да таго — помнік прыроды! Пры іншым дубе паясняецца, што ён бортны, хаця на ім ніякай борці няма. Група дубоў, знятых у сваю чаргу ў Палацовым парку, „змешчана" ў пушчы. На адной з паштовак паявілася нат арфаграфічная памылка: існуе запаведнік „Starzyna", а не „Stażyna". А вось прыклад лаканічнасці: здымак прадстаўляе гняздо з буслом на фоне заходзячага сонца — надпіс жа гаворыць толькі: Белавежа.

Такі падыход да справы, які адрэкамендавала выдавецтва „Лук", праўда, не новы ў гісторыі белавежскай паштоўкі. Усё-такі цяжка з ім прымірыцца, асабліва сёння, калі маем амбіцыю „увайсці ў Еўропу".

**П. Байко**

P.S. У верасні г.г. паявілася іншая серыя (7 штук) белавежскіх паштовак, выдадзеных на гэты раз па ініцыятыве мясцовага ПТТК (на паштоўках жа віднее інфармацыя аб нейкай суполцы(?) „Silva Rerum", не падаецца прозвішча аўтара здымкаў пры гэтым). Надпісы на іх таксама надта лаканічныя, але прынамсі не ўводзяць у зман турыста. На паштоўках паказаны: царква, касцёл, гасцініца ПТТК, дуб, на якім паявіўся вобраз людской галавы, і тры тэмы з зубрамі.

**П. Б.**

## НАШЫ КАРАНІ

### XVIII. НЕ ТОЛЬКІ Ў ЧАСЫ РАЗДРАБНЕННЯ

Як ва ўсёй Еўропе, таксама над Нёманам, Бугам і Нарвай унутранае жыццё грамадства ў сярэднявеччы кіравалася да раздрабнення вялікіх імперыяў на ўсё меншыя ўдзельныя княствы. І кожны такі ўдзел, нават самы маленькі, імкнуўся стаць незалежнай дзяржавай. Тады быў такі ўзровень гаспадаркі і тэхнікі, пры якім нават невялічкая грамадка людзей магла сама вырабіць усё неабходнае для жыцця, была эканамічна незалежнай. Разрослым княсскім родам няспынна прыбывала новых княжычаў і князёўнаў, якія з усяе сілы намагаліся здабыць сваю незалежную дзяржаву, стаць „самадзержцамі". Гэтак на пераломе XII і XIII стагоддзяў на тэрыторыі беларускіх зямель было каля трыццаці маленечкіх княстваў-дзяржаваў. Гэта, вядома, спараджала паміж імі паўсюдную зайздрасць, варажэчу, сваркі і кровапралітныя войны за землі, гарады, а нават паасобныя сёлы. Гэтакія няшчасці не абмінулі і нашых зямель. Каля 1150 года з аграмаднай Тураўскай зямлі адасобілася незалежнае Берасцейска-Дарагічынскае княства і амаль 20 гадоў панавалі у ім мудры палітык і дбайны гаспадар — князь Яраполк Ізяславіч. Але пасля яго смерці ўсчалося працяглае змаганне за панаванне над гэтай дзяржавай, змяняліся яе ўладары, пусцелі гарады і вёскі. Княства было падзелена на два — Берасцейскае і Дарагічынскае, і зараз жа пачаліся знішчальныя войны паміж імі. Тое ж самае сталася з моцным Гарадзенскім княствам: пасля яго росквіту пры Усеваладзе Давыдавічы ўжо пры яго сынах яно распалася на некалькі частак. Хоць да нас не дайшлі звесткі пра барацьбу паміж яго часткамі ўдзеламі, але моц Гарадзенскай зямлі выразна паслабела.

У тыя часы Царква была адзінай міратворчай сілай, якая адхіляла безліч княжацкіх сварак і кровапралітных войнаў. Адзін з мітрапалітаў кіеўскіх у размове з вялікім князем гэтак акрэсліў ролю духавенства: „Мы пастаўлены Богам у Рускай зямлі, каб паўстрымоўваць вас ад кровапраліцця". Нярэдка праваслаўныя святары з крыжамі ў руках станавіліся паміж напаленымі да бітвы войскамі і малітвамі ды пераконваннямі адхілялі братазабойчую разню. Царква таксама брала пад сваю ахову тых, каго праследавала княжацкая ўлада, — у храме ні ў якім выпадку нельга было карыстацца зброяй ці сілай. Духавенства выконвала вельмі адказную ролю пасланнікаў добрай волі, міралюбнасці паміж варагуючымі княствамі, гарадамі ці паасобнымі князямі. Спакон веку ўся дзейнасць Праваслаўнае Царквы была накіравана на пашырэнне і ўмацаванне грамадскага міру і супакою, талерантнасці і добразычлівасці паміж паасобнымі людзьмі, вялікімі абшчынамі і цэлымі дзяржавамі. Таінства споведзі, выбачальныя нядзелі, посты, святочныя дні — у гэты і іншы час наша Царква патрабавала ад веруючых мірнага сужыцця і прыстойных паводзінаў, выключала сваркі, а тым болей якое-колечы кровапраліццё. І гэта ў асноўным выконвалася. Паўсюдная прапаведзь і замацоўванне вучэння Хрыста пра выбачанне ворагам іхніх благіх учынкаў, пра брацкую любоў паміж усімі людзьмі, пра неабходнасць жыць паводле запаведзяў Божых, шматлікія прыклады з зямнога жыцця Хрыста, апосталаў, падзвіжнікаў змякчала жорсткасць нораваў і паводзін людзей, цывілізавала іх. Царква доўгі час была адзіным носьбітам і сейбітам поступу, прагрэсу ва ўсіх дзялянках чалавечага жыцця.

**МІКОЛА ГАЙДУК**




( **Працяг са стар. 4** )

Жамойціну праз нейкі час узяць усе нумары „Нівы" з апошніх гадоў, прачытаць і пабачыць, хто і што там пісаў. Магчыма, што пасля такой лектуры і мой артыкул „Куды ісці беларусам" у Вашых вачах будзе крышку менш лайдацкім.

А беларусы, на маю думку, не мусяць ісці разам. Навошта нам гэтая ілюзорная і да таго мілітарная логіка. Будзе вельмі добра, калі, ідучы рознымі дарогамі і паасобна, будзем мець супольную мэту. Не трэба баяцца таго, што сярод нас ёсць камуністы і нацыяналісты, дэмакраты і лібералы, кансерватары і рэвалюцыянеры і да таго ўсе сварацца паміж сабою. Бяда ў тым, што не маем ані супольных мэтаў, ані не ведаем, у які момант перастаць сварыцца, ані не ведаем, якія справы знаходзяцца па-за межамі дыскусіі.

**Яўген Мірановіч**

*

Паважаная Рэдакцыя!

Зь вялікай цікавасьцю прачытаў ліст у Рэдакцыю „Нівы" Сп. Яраслава Яновіча (гл. „Ніва" н-р 31, 4 жніўня 1991 г.). Поўнасьцю пагаджаюся зь ягонай думкай. Тым больш, што, як зазначыў Сп. Яновіч, у Заходняй Беларусі перад другой сусьветнай вайной таксама вялася палянізацыя беларускіх назоваў вёсак і гарадоў. Цікава толькі, што спаланізаваныя назовы засталіся і надалей афіцыяльна вымаўляюцца на „польскі лад", хоць, праўда, кірыліцай пісаныя і найчасцей па-расейску. Прыкладам — мая вёска звалася Лучычы. Пад польскай уладай перамянілі на Łuczyce, сяньня засталася звацца афіцыяльна Лучыцы. На маю думку, ёсьць гэта яшчэ адзін доказ, як афіцыяльныя воргаы БССР усюды і усімі сіламі праводзяць антыбеларусізацыю. Прыкладаў ёсьць шмат, магчыма нават зашмат...

Далей хачу зазначыць, што нашыя старыя назовы гарадоў мы таксама не заўсёды правільна публікуем у заходняй прэсе. Прыкладам — часта пішам Мінск, а не Менск, Брэст, а не Берасьце і г.д. Аргумэнтацыя ёсьць, што тут на Захадзе ня будуць ар'ентавацца. Хачу зазначыць тут адзін сьвежы і цікавы факт. Не так даўно прыйшоў у маё бюро адзін мой калега бэльгіяц, які атрымаў афіцыяльныя запрасіны на сымпозіюм у Львова, арганізаваны Украінскім Тэхнічным Інстытутам. У запросінах мейсца Сымпозіюма названа Lviv. Калега мой пытае мяне, дзе гэта знаходзіцца, бо ў энцыклапедыі назову гэтага не знайшоў... Дык вось Укр. Тэхн. Інстытут не пабаяўся напісаць Львів з думкай, што не знойдуць яго. Знойдуць і яшчэ лепш запамятаюць, што на Украіне горад гэты так завецца.

Найлепшы прыклад засвойваньня новага назову гарадоў ёсьць Вільня. З

( **Працяг на стар. 6** )

***********************************************************************

магільны камень цісну́ў яе, не даваў ёй выпрастацца, развіцца і ўшыр і ў глыб (...)".

Алег Лойка, каменціруючы артыкул маладога крытыка, пацвярджае яго выказванні па гэтаму пытанню: „Пэўная доля гістарычнай праўды тут сапраўды была адчута, хоць справа была не проста ў мове, а ў тым шаблоне схем і прыёмаў, якія склаліся ў старажытнай кніжнай літаратуры на царкоўнаславянскай мове пры паказе жыцця. Шаблон гэты, калі „знешняе і ўнутранае аблічча чалавека... давалася ва ўмоўных схематычных рысах, што стваралі ўстойлівую стылявую традыцыю, якая распаўсюджвалася і на апісанне дзеянняў і паступкаў персанажаў і на абставіны іх жыцця" (...). „Ён сапраўды быў тормазам для нараджэння новай літаратуры як рускай, так і беларускай", — пісаў сучасны беларускі літаратуразнавец у сваёй манаграфіі „Максім Багдановіч" (Мінск, 1966).

Алег Лойка, згаджаючыся з выказваннямі Багдановіча, што царкоўнаславянская мова перашкаджала, кажучы словамі паэта, „нараджэнню і ўзросту прыгожай пісьменнасці", не можа адобрыць, як ён піша, „за вельмі катэгарычнага" сцвярджэння Багдановіча аб незалежнасці беларускай старажытнай літаратуры XIV-XV стагоддзяў ад рускай, ад якой яна з самага пачатку адрознівалася, якая страціла „амаль не ўсе звязкі з мацярынскай кіеўскай культурай" і прымушана „новымі варункамі жыцця будаваць свой быт на іншых асновах".

Памылковасць думак Багдановіча А. Лойка тлумачыць „яго недахопам фактаў з гісторыі рускай літаратуры XIII-XV ст.ст.". Стае, так сказаць, у абароне рускай літаратуры, аргументуючы сваю рацыю тым, што „ва ўмовах XIV, XV, першай палавіны XVI ст.ст. традыцыі літаратуры Кіеўскай дзяржавы давалі больш буйны плён у Беларусі, чым у Маскоўскай дзяржаве, заклапочанай перш за ўсё вырашэннем палітычных пытанняў незалежнасці ад татарскага ярма і ўзвышэння Рускай дзяржавы. Багатая культурная спадчына, атрыманая Беларуссю ад XI-XIII ст.ст., была для яе ўвогле адной з першапрычын далейшага шырокага культурнага развіцця. Старт, узяты ў нетрах літаратуры Кіеўскай дзяржавы, быў настолькі разгонны, штуршок настолькі магутны, што ў Беларусі рух наперад ішоў як бы па інерцыі (...)". „Багатае развіццё беларускай літаратуры ў XIV-XV ст.ст. „на старым корані", — як піша далей, — на ўзорах літаратуры Кіеўскай дзяржавы і мове, выпрацаванай у ёй, ніяк не дае, аднак, падстаў думаць, што на іх аснове развівалася толькі адна, а не больш літаратур".

З вялікім энтузіязмам піша Багдановіч пра сутнасць культурна-літаратурнага жыцця канца XV-XVI ст.ст., калі беларускія землі знаходзіліся ў складзе Вялікага княства Літоўскага. „Будучы больш развітай (беларуская народная культура, **—Я. Т.**) ад культуры літоўскай, яна пераважыла гэтую апошнюю на вагах гісторыі, так што ўсё гасударственнае жыццё Вялікага княства адбывалася ў беларускіх нацыянальных формах, — літоўскім было тут адно толькі названне, адзін толькі этыкет; на беларускай гаворцы ішоў суд, пісаліся акты і граматы, вяліся перагаворы з чужаземнымі гасударствамі; па-беларуску размаўлялі і вялікія князі і баяры (...)".

Аўтар успамінае і пра значэнне помнікаў пісьменніцкай культуры гэтага перыяду: два статуты, „Летапісец вялікіх князёў літоўскіх", „Летапісь Аўраамкі" і многія іншыя. „(...)Самы лік (гэтых) кніг павялічыўся, бо цяпер іх было можна ўжо лягчэй зразумець, ды і людзей, прыхільных да чытання, патроху прыбывала. Паводлуг гэтага пад'ёму ў пісьменнасці і рукапісаў, належачых да XV сталецця, дайшло да нас значна болей, чым ад папярэдняга".

*(Працяг будзе)*

**ЯНІНА ТРАЧУК**




( Працяг са стар. 5 )

пачатку ягонага заснаваньня і дзесь да канца другой сусьветнай вайны горад гэты ні ў якіх дакументах (акрамя летувіскіх) не зваўся Вільнюсам. А цяпер усе знаюць, што такое Вільнюс...

Карыстаючы з нагоды, хачу таксама зрабіць асабістую заўвагу адносна правапісу ўжыванага „Нівай". Да сяньняшняга часу „Ніва" ўжывае афіцыяльны савецкі правапі́с, асабліва, што тычыцца ўжываньня мяккага знаку для зьмякчаньня паміж дзьвюма зычнымі. Афіцыяльная аргумэнтацыя грунтуецца на тым, што быццам-бы гэтае зьмякчэньне ёсьць аўтаматычнае. На маю думку — зусім не. Дастаткова паслухаць сяньняшнюю беларускую моладзь, як яна вымаўляе словы прыкладу „сьвятло", „песьня", „карысьць", „ёсьць" і г.д. Тут ясна чуецца і нават рэжа ў вушы адсутнасьць мяккага знаку. Сказаў-бы нават, што чуецца прысутнасьць цьвёрдага знаку. Хоцькі-ня-хоцькі, а трэба прызнаць, што гэта ёсьць зьбліжэньне да расейскай мовы.

Дык вось маё пытаньне: чаму мы гэтаму памагаем? На маю думку, калі мы хочам мець добрыя вынікі ў пачатым працэсе беларусізацыі — трэба адкінуць усе камплексы і бескампрамісоўна і рэгулярна ўжываць у друку нашыя беларускія словы з правапісам іхніх вымаўляньняў, ужываць нашыя беларускія назовы гарадоў і вёсак, а не перароблены на чужы капыл. Упэўнены нават, што не патрэбна (як гэта часамі робіцца) пісаць у дужках афіцыяльныя назовы, прыкладу: Менск (Мінск), Берасьце (Брэст), Горадня (Гродна) і г.д.

З глыбокай пашанай

**Янка Жучка,**

Бэльгія

# Іх папараць-кветка або у амерыканскіх беларусаў

**23. НА СОТЫМ ПАВЕРСЕ.**

Вядома, што калі небаскробы — дык у Нью-Йорку, а асабліва ў яго цэнтральнай частцы — на Манхатане. Але сярод усіх шматлікіх небаскробаў у Нью-Йорку вылучаюцца два найвышэйшыя — так званыя „блізняты", ці WORLD TRADE CENTER (Сусветны цэнтр гандлю).

Гэта два аднолькавыя, больш за стопавярховыя будынкі. Цікава было паглядзець з сотага паверха на Нью-Йорк. Мы выбраліся туды ўшасцёх: Юля Андрусішына, Данчыкава маці, спадар Антон Шукелайць, прафесар Адам Мальдзіс, які якраз прыехаў з Менска ў ААН у складзе беларускай дэлегацыі, настаўніца Валя Якімовіч з сынам Русланам і я.

Ад сп. Андрусішыных на аўтобусе ехалі нядоўга. Вось ужо і „блізняты". Я глянула ўверх. Божа, які чалавек маленькі ў параўнанні з такімі гігантамі, убітымі ў скалісты грунт Манхатана нічыімі ж іншымі — чалавечымі рукамі... Здавалася б, навошта будаваць такія высачэзныя будынкі? Але калі ўзяць пад увагу велізарныя сёння кошты аднаго квадратнага метра зямлі на Манхатане,, дык перастаеш дзівіцца, што дамы там так лезуць уверх.

Дзесьці высока ў небе плылі хмары, верхнія паверхі нашых „блізнят" патаналі ў імгле. Надыходзіў вечар. Здалося, што гэтыя магутныя будыніны калышуцца злева направа. Мы ўвайшлі ў адзін з будынкаў. Каб паехаць на соты паверх і



*Нью-йоркскія „блізняты". Паштоўка.*

глянуць на горад, трэба было спачатку купіць білеты. Ехалі мы сюды нядоўга, аднак жа ў чарзе напастаялі! Спачатку — за білетамі, а пасля — да ліфта. У ліфце аднаразова змяшчалася некалькі дзесяткаў чалавек, але і так мы пасоўваліся наперад надта паволі.

Разам з намі ў чарзе чакала мноства людзей. Былі тут і амерыканцы, што прыехалі з іншых гарадоў пабачыць адно з нью-йоркскіх цудаў, але найбольш было далейшых гасцей — японцаў, індусаў, аўстралійцаў, арабаў. Мо былі тут і іншыя, апрача нас, славяне, але іх мне выдавіць не ўдалося.

Нашы суправаджаючыя, Юля і „Шукі", паказалі нам на вакно. За ім, каля самага будынку, нейкі прадпрымальны яўрэй — рэпатрыянт з Савецкага Саюза — фатаграфаваў сваіх кліентаў у кампаніі дзвюх свабодна седзячых васковых фігур — прэзідэнтаў Гарбачова і Буша. Бізнес ідзе някепска. Юля кажа, што і наш збіральнік моцных уражанняў Сяргей Панізнік таксама зрабіў тут здымак. Я асабіста гэтага не бачыла, але бачыла, як у Чыкага ён фатаграфаваўся, улезшы ў атрапу касцюма касманаўта.

Нарэшце падыйшла наша чарга і мы адносна хутка падняліся ліфтам на соты паверх. Увайшлі ў вялізную залу. Пасярэдзіне была кавярня, а навокал, з трох бакоў, былі шкляныя сцены. Каля іх стаялі металёвыя лавачкі, на якіх людзі сядалі і глядзелі ўніз, трымаючыся на ўсякі выпадак за тоўстыя металёвыя поручні, змешчаныя перад імі, хаця і так было вядома, што шкло гэта моцнае, быццам бетон, і зроблена тут на правах сцяны.

І мы таксама пасядалі і глядзелі ды пстрыкалі фотаапаратамі. Пасля Юля Андрусішына, якая прыйшла сюды ўжо дваццаты раз з госцьмі, паставіла нам у кавярні кока-колу. Прыемна сядзець і цадзіць яе праз саломінку, гледзячы зверху, як над Нью-Йоркам пачынае змяркацца і загараюцца бясконцыя агні шматмільённага горада, а абмываючая яго вада адблісквае ўнізе шэрым металам.

У душу ўліваецца нейкі спакой і робіцца цёпла, хаця горад перад намі вялікі і нязнаны. Можна з кока-колай падыйсці да вакна і стоячы пазіраць на незлічоныя агеньчыкі, можна сесці смялей на металёвую лавачку і ўжо не трымацца за поручні, а

**********************************************************************************

# САКРАТ ПРА ЎСХОДНЮЮ ПАЛІТЫКУ ПОЛЬШЧЫ

*Польская ўсходняя палітыка як дактрына не існуе. Тое, што бачыцца нам пад гэтай покрыўкай, не мае нават абрысаў, а з'яўляецца ўсяго наборам слаба звязаных і неадпаведна размешчаных элементаў.*

Гэтак увесну г.г. сцвярджаў Сакрат Яновіч, даючы крытычны агляд польскай замежнай палітыкі ва ўсходнім яе накірунку — найперш на семінары ў Казімежы-Дольным над Віслай, а потым у варшаўскай англамоўнай газеце „The Warsaw Voice" (14.04.1991), якая змясціла ў падкарочанай і крыху „стылістычна распрастанай" форме ягонае выступленне. За мінулае паўгода на Усходзе ўсё перавярнулася дагары нагамі, а ці змянілася ўсходняя палітыка Польшчы? Хутчэй за ўсё, яшчэ не паспела. Далей канструктарамі гэтае палітыкі застаюцца людзі з каманды міністра Скубішэўскага — акрамя „паралельнай палітыкі і з рэспублікамі" нічога іншага польскае МЗС пакуль што яшчэ не прыдумала. Таму разважанні Сакрата, паўгадовай даўнасці, усё яшчэ не страцілі сваёй актуальнасці — яны характарызуюць стан дыпламатычнай думкі, з якім маем дачыненне і сягоння. Дэкампазіцыя Савецкага Саюза, рэальны суверэнітэт рэспублік, новая форма саюзнай дамовы — усё гэта яшчэ не асэнсавана польскім МЗСам. Як сведчаць апошнія падзеі ў Літве, праблема нацыянальных меншасцяў па той і гэты бакі мяжы будзе адным з самых істотных фактараў ва ўзаемных дачыненнях Польшчы з яе ўсходнімі суседкамі: Літвой, Беларуссю і Украінай.

*Ва ўнутранай палітыцы ў Польшчы ў адносінах да нацыянальных меншасцяў — беларусаў, украінцаў і літоўцаў — не наступілі ніякія станоўчыя змены. Не быў учынены ніякі значны жэст, які можна было б лічыць праявай ахвоты дзяржаўнай улады патрактаваць гэтыя меншасці як нармальны элемент грамадскай канфігурацыі ў Польшчы.*

Мінулы перыяд прынёс адну істотную карэктуру ў гэтую справу: новая выбарчая ардынацыя фактычна надзяліла меншасці правам палітычнага суб'екта ў парламентарных выбарах.

Яшчэ пра меншасці:

*Ва ўсходняй Польшчы меншасцям пагражае небяспека пераўтварэння іх у заложнікаў польскай палітыкі ў адносінах да іхніх айчынных краін. Яны проста атрымаюць столькі, колькі паляки за Бугам і Нёманам.*

Пра польска-беларускія дачыненні:

*Дэкларатыўны характар польскай усходняй палітыкі я асабіста лічу адной з галоўных яе заганаў. Назіраецца няшмат канкрэтаў, нават у рамках таго, што магчымае ў існуючых палітычных і юрыдычных умовах Савецкага Саюза: напрыклад, у сферы эканомікі — няма бартэрнага абмену прынамсі сельскагаспадарчымі прадуктамі, з якімі Польшча не ведае, што рабіць. Фіяска перамоваў міністраў Скубішэўскага і Краўчанкі ў Мінску паказала штосьці, што кампраметуе польскі бок: мізэрныя веды беларускай рэальнасці, слаба падрыхтаваную дыпламатычную службу, якая ўсё яшчэ не адрозніваe Беларусі ад Расіі. Міністэрства замежных спраў акампраметавалася ў вачах публічнай апініі рапартам аб беларускай меншасці і Беларускай рэспубліцы, які раскрыў пасол Цімашэвіч. Калі гэта і ёсць той узровень, на якім спасцерагаюць беларусаў, дык д арога польскіх палітыкаў у Беларусь будзе ісці ды ісці, без канца.*

А далей — пра кардынальную

пад нагамі ў цябе будзе цэлы горад.

Але не ўсім у гэты час так цёпла і прыемна. Выходзім з ліфта з другога боку. Навокал — шыкарныя мармуровыя сцены, прыгажосць. І раптам бачу сярод гэтых мармураў дзе-ні дзе валяючыхся проста на падлозе людзей, у асноўным чорных, але ёсць і белыя. Здзіўляюся — у нас тады такога яшчэ не было!

Усё ж такі ізноў давялося мне ехаць на метро, хаця ў думках я ўжо давала сабе слова, што лепш ехаць аўтобусам, чым іхнім „сабвэем". Мы сыйшлі ўніз. Навокал сядзячыя і ляжачыя брудныя негры. Дзяўчына ў джынсах стаіць з расшпіленым распоркам, як бы напаказ,



*Праф. Адам Мальдзіс, Валя Якімовіч, яе сын Руслан, сп. А. Шукелайць на сотым паверсе.*

**Фота аўтара.**

маўляў — бярыце мяне! Валасы яе брудныя і пасклейваныя. На лавачцы ляжыць мужчына — выглядае, што п'яны або ўзяў наркотыкі. Вочы яго нейкія няясныя, заімглёныя. Ён апрануты пры вераснёўскай спякоце ў нейкую зімовую куртку. Але модны які! На адны цёмныя джынсы ён начапіў другія — светлыя і кароткія, толькі да паўбядра, а калошы гэтых другіх джынсаў аддзертыя. У гэткім стылі, заўважыла я, ходзяць нават і модныя дзяўчаты.

Не ведаю, ці ўсё гэта ад паўнаты шчасця...

А мо ад роспачы?

Здымкі вячэрняга Нью-Йорка, якія я рабіла праз шыбу вакна, выйшлі не надта. Відаць, трэба было тут лепшага спецыяліста...

*(Працяг будзе.)*

**АДА ЧАЧУГА**

Важданіну з найменаваннем адной з вуліц у Бельску імем Францішка Скарыны прадставіў у „Ніве" Юрка Баена (24 сакавіка 1991 і 30 чэрвеня 1991), ён жа гарадскі радны ад Беларускага выбарчага камітэта і аўтар гэтае прапановы. Спачатку гэтая справа доўга адлежвалася (не ўваходзіла ў павестку пасяджэнняў Рады), а была вырашана „пры нагодзе": радным ад Грамадзянскага камітэта „Салідарнасць" захацелася перайменаваць вуліцу 22 Ліпеня на вуліцу кардынала Стэфана Вышынскага. Гэтым фактам пакарысталіся радныя ад БВК, каб зацвердзіць і сваю прапанову. На вуліцу Ф. Скарыны была перайменавана вуліца Паўночная. Дзеля гісторыі зацытуем пратакол з таго пасяджэння (ён, пры ўсім іншым, дастаўляе неблагую эстэтычную насалоду):

Protokół Nr XVI/91
z obrad XVI sesji Rady Miejskiej
w Bielsku Podlaskim
w dniu 31 maja 1991

Radny Ignacy Grzybowski (KO „Solidarność") w związku z nieaktualnością święta 22 lipca oraz rocznicą, przypadającą w tym roku śmierci Kardynała Stefana Wyszyńskiego złożył wniosek o zmianę nazwy ul. 22 Lipca. O zasługach Wyszyńskiego wszyscy wiedzą. Jan Paweł II stwierdził, że nie byłoby Papieża Polaka, gdyby nie Wyszyński. Ponadto pochodzi on z Podlasia.

Przewodniczący RM — Bogdan Zawalich (KO „Solidarność") stwierdził, że wniosek ten należy przedłożyć do zaopiniowania przez komisję OKiOZ (Oświaty, Kultury i Ochrony Zdrowia).

Radny Jan Radkiewicz (KO „Solidarność") poprosił, aby wniosek ten potraktować jako wyjątek i już dzisiaj podjąć stosowną uchwałę ze względu na wizytę Ojca Świętego w Polsce. Tablice z nową nazwą tej ulicy zostaną wykonane społecznie.

Głosowanie: 12 — za, 1 — przeciw, 2 — wstrzym.

Radny Bazyli Leszczyński (BWK) zauważył, że już dawno był złożony wniosek radnego J. Bajena o nadanie jednej z ulic miasta nazwy — ul. F. Skaryny i jak dotąd nie zostało to załatwione.

Radny Aleksander Bocko (BWK) uważa, że źle się stało, że sprawa ta tak długo nie jest załatwiona, zwłaszcza, że Zarząd Miasta pozytywnie zaopiniował aby zmienić nazwę ul. Północnej na ul. F. Skaryny.

Przewodniczący RM — Bogdan Zawalich zaproponował przegłosować omawiany wniosek, który został złożony dość dawno.

Radny Tadeusz Miller (KO „Solidarność") uważa, że w Bielsku należy ulicom nadawać nazwy ludzi zasłużonych dla miasta i Polski a nie osób obcych nikomu nie znanych.

Radny Bazyli Leszczyński podkreślił, że obecnie odbywa się w Krakowie sesja ONZ na temat kultury i na Uniwersytecie Jagiellońskim zostanie odsłonięta tablica upamiętniająca fakt, że tam studiował Franciszek Skaryna, postać ta jest znana na całym świecie.

W wyniku głosowania została powzieta Uchwała nr 104/XVI/91 w sprawie zmiany nazwy ulicy w m. Bielsk Podlaski, zmieniając nazwę ulicy Północnej na ul. Franciszka Skaryny. Uchwała została powzięta 8 głosami za przy 7 głosach wstrzymujących się.

О'кэй. Пастанова была прынята, не без дапамогі святой памяці С. Вышынскага і самога Сваццейшага Айца. Але цешыцца зарана. Праз нейкі час бельскія радныя атрымалі ліст (цытуем яго поўнасцю, не баючыся, што чытачы занудзяцца чытаннем):

# РЭАЛІІ НАШЫХ СПРАЎ

Do Radnych
Miasta Bielska
Podlaskiego

Piszę ten list do Państwa w zwiazku z dokonaniem zmiany nazwy ul. Północna na F. Skaryny. Dokonanie zmiany nazwy ulicy bez zasięgnięcia opinii mieszkańców osiedla jest zjawiskiem bardzo negatywnym. Z nazwy ulicy powinni być zadowoleni wszyscy a nie tylko mniejszość.

Jeżeli Radni stawiają sobie za cel przetarg w nazwach ulic to bardzo źle świadczy o Was. Nie wiem skąd wynikła niechęć do nazwy „Północna". Wprowadzając nazwę „F. Skaryny" należałoby przeprowadzić sesję naukową celem przybliżenia wiadomości o postaci na temat której brak jest informacji w powszechnie dostępnych encyklopediach. Mam u siebie encyklopedię 4-tomową z 1987 oraz małą jednotomową z 1982 brak jest hasła „F. Skaryna".

Jak mnie uczono w szkole białoruskiej to bardzo znanymi pisarzami białoruskimi są Kołas, Kupała.

Czy Radni się zastanowili skąd wziąć środki na budowę ulicy, która w tej chwili niczym nie przypomina ulicy, jest zarośnięta chwastami, brak jest nawierzchni asfaltowej. Ponadto ulica nie ma połączenia telefonicznego i jak informuje SM oraz poczta nie nastąpi to w najbliższym czasie. W razie nagłego zachorowania człowiek jest skazany na śmierć, nie ma możliwości uzyskania pomocy z powodu braku telefonów.

Uważam że to jest poważniejszy problem, którym by się należało zająć a nie nazwami ulic.

Na telefon czekałam 14 lat a korzystam tylko 2 lata. W związku ze zmianą miejsca zamieszkania stracę telefony bo nie modłączenia (???). Takich osób jak ja jest szereg.

Podkreślenie że istnieje narodowość białoruska nie musi następować w taki dziwny i kosztowny sposób. Można np. rozważyć możliwość umieszczenia białoruskiego napisu obok polskiej nazwy. Uważam, że tak może być korzystniej i nie rodzic antagonizmów. Proszę uszanować wolę innych narodowości mieszkających na tej ulicy.

**( Працяг на стар. 8 )**

******************************************************************************************

памылку польскай замежнай палітыкі:

*Архітэктары польскай усходняй палітыкі ў Варшаве і Гданьску памыляюцца наконт ключавой ролі Літвы. Палітычную цвярозасць каламуціць ім комплекс Вільні, які не дазваляе зразумець, што гэты цэнтр Польшчы перад падзеламі (перад 1772 г.) меў вялікае значэнне з увагі на Белую Русь, а не з увагі на Літву. Польская палітыка будзе вырашацца ў Мінску, а не ў Вільні. Не ўсцяж інфлянцкага (лівонскага) накірунку, а ўсцяж смаленскага. Ключ да польскай усходняй палітыкі — Беларусь — далёка больш істотная эканамічна і далёка больш дапасаваная да Польшчы ў сэнсе супольнага гаспадарча-псіхалагічна-культурнага патэнцыялу. У той жа час рэспубліка Беларусь амаль не заўважаецца. Гэта яшчэ адзін бянтэжлівы доказ аматаршчыны палітыкаў новай Польшчы і знак іхняй капітуляцыі перад анахранічнымі навыкамі нацыянальнага думання.*

І заключныя высновы:

*З усіх савецкіх рэспублік Беларусь патрабуе Польшчы найбольш відавочна. (...) Беларусы не могуць чакаць. Яны не маюць часу: дома прыходзіцца ім нашмат цяжэй, чымсьці палякам, — з увагі на ўстарэлую індустрыю і чарнобыльскую бяду. Польскія дэлегацыі ў Мінск павінны ўключаць людзей з бізнесменскіх асяроддзяў Варшавы і Гданьска, а не барадатых пост-салідарніцкіх ідэолагаў і па-езуіцку адукаваных ксяндзоў. Нішто так не спалучае, як супольна спечаная буханка хлеба.*

Ух!

**Выбраў і пераклаў**

**ЯН МАКСІМЮК**

*ТОЛЬКІ СКНАРА І ЛЯНІВЫ НЕ ВЫПІСЫВАЕ „НІВЫ"!*

# НАША ПОШТА

**Паважаная рэдакцыя!**

Дзякуючы вашай газеце ў мяне з'явіліся новыя знаёмыя. Яны мне і дасылаюць „Ніву", а я, прачытаўшы яе, перасылаю іншым знаёмым у СССР. Газету чытаю ад коркі да коркі, бо ў ёй знаходжу вельмі цікавыя артыкулы.

Я радуюся таму, што мае суродзічы ў Польшчы і іншых краінах свету жывуць так, што не забываюць аб роднай старонцы, аб Беларусі, захоўваюць сваю матчыну мову. Радуюся і таму, што беларусы ў свеце маральна і фінансава падтрымоўваюць беларусаў ва ўсходняй Польшчы. Кантакты з беларусамі ў Польшчы было лягчэй устанавіць, чым з тымі, хто жыве на Беларусі і ў іншых рэпубліках Саюза.

Так склалася жыццё тут у Саюзе, што беларусы між сабою не размаўляюць на роднай мове. На 99 працэнтаў людзі карыстаюцца рускай мовай. Час мяняецца і дасць Бог, што па-сапраўднаму адродзіцца наша Беларусь. Як я гэтага чакаю!

Вось, відаць, пара кожнаму з нас вяртацца ў свае родныя краі. Як добра было б, каб на Бацькаўшчыну вярнуліся беларусы і іх дзеці з іншых краін свету. Гэта яны маглі б дапамагчы сваім вопытам ажывіць эканоміку і адрадзіць нашу культуру. Як нам не хапае іхняга вопыту!

Беларусы, якія жывуць ва ўнутранай эміграцыі, гэта значыць у іншых рэспубліках Саюза, мала ведаюць пра нашы беларускія справы. Няма ў нас такой згуртаванасці, як, напрыклад, у беларусаў з ЗША або Польшчы. Відаць, камусьці так было выгадна.

Цяжкі для нас, беларусаў ва ўнутранай эміграцыі, час надыходзіць, але пражыць яго неяк трэба. Будзем спадзявацца, што дасць Бог і ўсё будзе добра.

**Іван Самарай,**
**Акцюбінск, Казахстан**

( Працяг са стар. 7 )

Radni zacznijcie zajmować się sprawami bardziej przydatnymi dla miasta i mieszkańców np. problemem bezrobocia w naszym mieście.

Z poważaniem
Nina G.

(*поўнае прозвішча і адрас да ведама рэд.*)

Bielsk Podlaski dn. 1991.08.06.

Спачатку справа энцыклапедыі. Артыкул пра Ф. Скарыну знаходзіцца і ў польскіх энцыклапедыях. Наш першадрукар фігуруе там як Skoryna Franciszak, а не як Skaryna. Значыць, трэба было перагарнуць некалькі старонак далей, каб даведацца, хто ён такі. (Праблема ў тым, што польскія энцыклапедыі падаюць беларускія прозвішчы ў расейскім правапісе — між іншым, не адзначаецца аканне). Але ўсё-такі дзіву даешся, у якой жа беларускай школе пані Ніна чула пра Коласа і Купалу, а не пачула пра Скарыну?

Прызнаюся, што справа з тэлефонамі даволі няўцямная, каб не сказаць, што зусім незразумелая. Значыць, што? — змяніўшы пані Ніне адрас, радныя хочуць адабраць у яе тэлефон? Гэткага не было ў пастанове.

Калі пра беларускія назвы побач з польскімі — дык мы поўнасцю за. Так і трэба, каб ушанаваць волю і меншасці, і большасці (беларускай у Бельску).

Што датычыць кансультацыі наконт перайменаванняў вуліц, то варта заўважыць, што ў адносінах да С. Вышынскага ніхто такой засцярогі не рабіў. Тут трэба рашыцца: альбо кансультуем усіх, альбо не.

Яшчэ адзін ліст:

Mieszkańcy ul. Północnej
Bielsk Podlaski, dn. 1991-08-15
Do Urzędu Miasta
Bielska Podlaskiego
Referat Gospodarki Przestrzennej

Zwracamy się z prośbą o pozostawienie nazwy ul. Północnej. Z nieznanych nam przyczyn nazwa została zmieniona na F. Skaryny na co wielu mieszkańców ulicy nie wyraża zgody. Nazwa ul. Północna nie powinna nikomu przeszkadzać. Przetrwa wszystkie zmiany ustrojowe i nie będzie nosiła żadnego




piętna wynikłego z określonych sytuacji politycznych. Z nazwy ulicy powinni być zadowoleni wszyscy. Nikt mieszkańców nie pytał o zgodę. Brak było jakich kolwiek informacji na klatkach schodowych (tablice ogłoszeń w budynkach) o proponowanej zmianie. Pozbawiono mieszkańców prawa głosu w tej sprawie.

Ponadto sam pisarz jest mało znany. Wieszczami Kultury Białoruskiej sa Kołas, Kupała.

Encyklopedia 4-tomowa wydana w 1987 nie posiada takiego hasła jak „Skaryna". Jak nauczyć dzieci skąd się wzięła taka nazwa, kiedy nie ma w powszechnie dostępnych podręcznikach dla ogółu ludności a nie tylko dla mniejszości. Nazwa ulicy jest trudna do zapamiętania dla dzieci i dla dorosłych.

Radni, którzy poparli tak nie przemyślany projekt niech uwzględnią wolę innych.

Prosimy o utrzymanie nazwy ulicy „Północna".

(*58 подпісаў*)

Гонар польскай энцыклапедыі мы выратавалі. Затое ўзніклая ў сувязі з гэтым перайменаваннем сітуацыя ў Бельску, што ні сказаць, пазначана таўром палітычнай рэальнасці ў нашым рэгіёне. Беспардонна супроць беларушчыны. І дарослыя, і дзеці. Кожны аргумент добры. Год 1990 ЮНЭСКА абвясціла годам Францішка Скарыны — гэткім чынам гэтая міжнародная агенда адзначае самых выдатных сыноў чалавецтва, якія пакінулі трывалы след у культурна-духоўнай спадчыне свету. Пэўна, што не ўсім у Бельску абавязкова ведаць, хто такі Ф. Скарына. Але ж матэрыялы пра нашага першадрукара былі дастаўлены ўсім радным. Толькі што, як піша Ю. Баена, ніхто з тых, хто нічога не ведаў, не захацеў імі пацікавіцца. Бо й навошта? *Mieszkamy w Polsce i nazwy powinny być polskie* — гэтую фразу аўтары апошняга ліста выкраслілі, палічыўшы, мабыць, што яна не вельмі стасуецца са сцвярджэннем, быццам прозвішча Скарыны цяжка запамятаць. Фраза выкраслена, але ж інтэнцыі засталіся...

**ЯН МАКСІМЮК**

***Пратакол і лісты прыведзены з захаваннем арыгінальнага правапісу і пунктуацыі.***

**********************************************************************

## *Беларусіяна на карце Беластока*

**Вуліца Пінская — усяго 150—200 метраў даўжыні. Паабапал яе 5—6 невялікіх старэнькіх драўляных хатаў. Уехаць на гэтую вуліцу можна ад вул. М. Каперніка, але выехаць немагчыма. Вуліца ўпіраецца ў сцяну беластоцкага арышту.**

**Тэкст і фота**

Я. ЦЕЛУШЭЦКАГА








# МАЦЁЛКА

Усе называлі яе „дурной Мацёлкай", кожны з яе насміхаўся. Толькі дзеці, калі атрымала пенсію, беглі за ёю — ведалі, што купіць многа цукерак і будзе частаваць.

Крыся была нешчаслівай жанчынай.

Пасля заканчэння паматуральнай школы выйшла замуж за Юлька. Хлопец ён быў прыгожы, але любіў піць і скандаліць. Бацькі былі проціў замужжа Крысі, але нічога не маглі зрабіць. Сказалі толькі, што ў нічым ёй не дапамогуць.

Пасля вяселля Юлек спачатку слухаў жонку. Так было датуль, пакуль нарадзілася Мар'янна. Крыся больш часу прысвячала дачушцы, а гэта гневала мужа. Пачаў часта піць і біць жонку па галаве.

— Чаго ты з ім жывеш? — пыталіся сяброўкі з працы. — Кінь яго! Ён цябе ў хваробу ўгоніць.

— Не магу! — гаварыла Крыся. — Я яго моцна кахаю. Я яму ўсё дарую.

Нарадзіўся сын. Юлек трохі супакоіўся, а потым зноў пачаў скандаліць. Пасля адной авантуры Крыся звар'яцела. Рабіла абы-што і гаварыла абы-што, біла мужа.

Крысю забралі ў бальніцу. Калі выздаравела, Юлек рашыў узяць развод і выехаць. Так і зрабіў. Крыся прасіла, каб дзеці былі пры ёй, але муж не дазволіў.

— Як вар'ятка можа гадаваць дзяцей?! — смяяўся над няшчаснай.

Пакінуў ёй толькі адрас, каб магла пісаць дзецям.

Крыся часта слала ім падарункі. Дзеці ў пісьмах дзякавалі маці.

Аднойчы былы муж напісаў, каб не пасылала нічога дзецям, бо яго жонка не хоча гэтага. Калі прышле, адашле назад. Жанчына плакала і першы раз пачала праклінаць Юлька за тое, што змарнаваў ёй жыццё.

Як толькі атрымала пенсію, заўсёды купляла многа цукерак і давала чужым дзецям. Знаёмыя пыталі яе, нашто яна так робіць. Яна адказвала:

— Калі свае не хочуць падарункаў, то аддам чужым.

Так было штомесяц.

Аднойчы прыехала да яе дачка. Сама ўжо зарабляла на сябе і магла рабіць, што хоча. Цяпер не баялася бацькі-п'яніцы і мачыхі. Пры дапамозе людзей знайшла дом маці. Калі ўвайшла ў дом, сказала:

— Мама, ці ты пазнаеш мяне цяпер? Я твая Мар'янна.

Крыся кінулася ёй на шыю і пачала моцна абдымаць ды цалаваць. Калі нацешылася, хацела выйсці, каб нешта купіць на абед. Падыйшла да дзвярэй і ўпала.

Лекар сказаў, што памерла ад інфаркту.

За трунай Крысі ішлі дачка і сын, якога бацька пусціў на пахаванне маці, і многа дзяцей, якім давала цукеркі.

АЎРОРА

# Зорка
## старонка для дзяцей

## РАЗУМНЫ ЮНАК

**(туркменская народная казка)**

З адной краіны выйшаў караван купцоў. З імі было многа слуг. Па дарозе сустрэлася вялікая рака. Усе селі ў ладдзю і паплылі на другі бераг. Раптам узнялася бура, ладдзю закруціла, ударыла аб камень, і яна раскалолася.

Людзі патанулі. Выратаваўся толькі адзін малады слуга. Зачапіўшыся за абломак, ён доўга валтузіўся ў вадзе, пакуль хвалі не вынеслі яго на бераг. Бедалага падняўся і пайшоў куды вочы глядзяць.

Удалечыні паказаўся горад. Калі юнак надышоў бліжэй, з варотаў выбеглі людзі, схапілі яго і панеслі ў горад. Там яго багата адзелі і пасадзілі на падзішахскі трон.

— Што гэта значыць? — спытаў юнак у людзей, якія стоўпіліся вакол.

— У нашай краіне такі звычай, — сказаў сівабароды чалавек. — Падзішах уладарыць толькі год. Затым адводзім яго да гары, дзе кішаць змеі і скарпіёны, і кідаем яго ім на з'ядзенне. А на трон садзім таго, хто першы сустрэнецца нам ля гарадскіх варотаў. На гэты раз трапіўся ты, вось і зрабілі цябе падзішахам.

— Значыць, пакуль я буду падзішахам, магу рабіць усё, што захачу? — спытаў супакоены юнак.

— Вядома, — сказаў сівабароды, — цэлы год усё ў тваіх руках.

Сваё праўленне юнак пачаў з паходу да страшнай гары. Ён сабраў вялікае войска і знішчыў не толькі змей і скарпіёнаў, але і ўсіх драпежных звяроў. Потым загадаў правесці там арыкі, пасадзіць сады і пачаў будаваць горад. Калі скончыўся тэрмін праўлення, ад страшнага месца не засталося нават успамінаў. Народ паглядзеў на справы свайго падзішаха і выбраў яго яшчэ на год. Так ён пражыў да старасці і зрабіў многа дабра.

**Яўген Хвалей**

## ВАВЁРКА РЭНЬКА

Па галінках —
Скок ды скок —
Лёгкая, як пёрка,
Скача ледзь не да аблок
Шустрая вавёрка.
Вось узлесак і рака,
Хата дзеда-лесніка.
Запрашае ўнучка Насця:
— Калі ласка!
Дзверы насцеж!
Скок уніз вавёрка Рэнька,
У яе — свая вярэнька,
І адтуль малой дзяўчынцы
Дастае яна гасцінцы:
— Раскусі адзін арэх —
Разбярэ вясёлы смех.
Раскусі другі хутчэй —
Заспяваеш ты званчэй.
Трэці мы схаваем, мусіць,
Падрасцеш — тады раскусіш.

## ЯБЛЫК З РАДЗІМКАЙ

Кажа Юля Дзімку,
Яблык хвалячы ў руцэ:
— Глянь, на ім — радзімка,
Як у мамы на шчацэ.

## КАЛЮЧАЯ ЛІТАРА

Шмат іх, літар алфавіта,
Ды адной баіцца Віта:
„Ё" не літара — іголкі,
Як у навагодняй ёлкі.
Віта пачытаць садзіцца —
Ўкалоць язык баіцца.



**Станіслаў Шушкевіч**

## ЛЯСНАЯ БЯСЕДА

Узабраліся апенькі
На пянёк гнілы, старэнькі
І прыселі, хто як мог, —
Хто на траўку, хто на мох.
— Тут прабудзем, пэўна, мы
Да халоднае зімы...
А старая сыраежка
З-пад лістка, як з-пад застрэшка,
Кажа: — Сонца ярка свеціць,
Прыбягуць сягоння дзеці,
Забяруць нас у кашы...
Хоць бы дождж пацерушыў!
Сапсавалася дарога,
Не было б тут анікога...
Падасінавік з-пад моху
Узнімаецца патроху
І гаворыць: — Памаўчыце,
Нас пачуюць, не крычыце!..

## КЕМЛІВЫ ДЗЯЦЕЛ

Чорны дзяцел сеў на дуб,
Узлахмаціў цёмны чуб:
— Ох і птах я безгаловы:
Дуб стары, але ж здаровы,
Жалудоў ён мае кош,
А яды мне — ні на грош.
Палячу я на сасну,
Сук струхнелы паласну
Сваёй моцнай вострай дзюбай,
Чарвячкі кішаць там клубам!
Будзе смачны мне абед,
Папалуднаю як след.
Але што ж? На той сасне
Нават не было і ў сне
Ачарвелае мясціны —
Усе здаровыя галіны
І здаровыя сукі.
Дык наедак там які?!
— Без яды, вядома, згіну,
Палячу лепш на асіну.
Яна мшыстая, старая,
Для мяне яду трымае...
Дзяцел збіў імшысты мох
І наеўся колькі мог.
Шэпчуць дзятлу-здараўяку
Усе асіны: — Дзякуй! Дзякуй!
А яны ж памаладзелі
І лістотай зашумелі.

**********************************************************************************************************

**Анатоль Дзялендзік**

## ЖАБЯНЯ І ЧАПЛЯ





Над сажалкай калыхаўся на ветры аер, распускаліся белыя і жоўтыя гарлачыкі.

Прыўзняўшы накрыўку, з ікрынкі вылезла Жабяня. Выглядала яно пацешна: пляскатая галава пераходзіла ў вузкае цела, якое канчалася хвастом. Вось чаму спачатку ўсе называлі яго апалонікам. Было яно нязграбнае, за ўсё чаплялася, падала, але паступова лапкі мацнелі, набіралі сілу, і неўзабаве, адкінуўшы хвост, Жабяня спрытна слізгала па вадзе. Яно радавалася жыццю, цёпламу ветрыку і ласкаваму сонейку. Разам са сваімі сябрамі скакала з берага — хто далей, плавала навыперадкі — хто хутчэй, ганялася за жукамі, тузала рака за вус. Яно было добрае, вясёлае і, як усе малыя, любіла падурэць, што не падабалася старым жабам.

— Гэта не давядзе да дабра, — палохалі яны. — Прыляціць Вялікае Крыло-Доўгія Ногі, схопіць цябе і праглыне.

— Не хачу, каб мяне глыталі, — казала Жабяня.

Але старыя мудрыя жабы добра ведалі жыццё.

Аднойчы ў небе мільгануўся страшны шэры цень. Сярод жаб пачалася паніка. Яны кідаліся ў ваду і як мага глыбей закопваліся ў глей. Жабяня ўбачыла, як на доўгіх тонкіх нагах ішла вялікая шэрая птушка. Яна хапала дзюбаю жаб, падкідала іх угору і глытала — адну за адной. Відовішча было жахлівае. Жабяня здагадалася: гэта Чапля.

Наглытаўшыся жаб, Чапля ўзмахнула крыламі і паляцела.

Павойкаўшы, паўздыхаўшы, жабы зноў узяліся за свае справы.

— Паслухайце, — звярнулася да іх Жабяня, — хіба ж можна такое трываць!

— Малое ты і дурное, — сказала старая жаба. — Так было і будзе. Адзіны наш паратунак — хавацца. Як ты думаеш, чаму я доўга жыву на свеце? Бо стараюся радзей вытыркацца з вады.

— А я, — прызналася суседка, — як убачу Чаплю, пераварочваюся дагары, выцягваю лапы і прыкідваюся нежывой. Чапля такіх не есць.

— Але ж трэба зразумець і Чаплю, — праквакала старая жаба. — І яна хоча есці. Можна толькі ганарыцца, што на нас палююць такія прыгожыя птушкі.

Адна жаба нават параіла не супраціўляцца, калі падыдзе Чапля, а скласці лапкі і чакаць.

— Не, я так не магу, — сказала Жабяня. — Трэба змагацца.

Жабы абурыліся:

— Якое тут змаганне! Лепш не злуй Чаплю, бо і нам будзе блага.

Жыццё ў сажалцы ішло сваёй хадою, пакуль зноў не з'явілася Чапля. Жаб як ветрам здзьмула. Не паспела схавацца толькі Жабяня. Проста на яго насоўваўся шэры велікан. Жабяня ўбачыла маленькія вочкі і вялікую дзюбу, скіраваную на яго. У Жабяняці ажно каленцы задрыжалі.

— П-п-аслухай, — закалацілася яно, — не еш мяне... Давай лепш сябраваць...

Але Чапля нават не адазвалася. Яна ўзяла Жабяня за лапку, папаласкала ў вадзе і, падкінуўшы ўгору, сабралася праглынуць.

Жабяня пакрыўдзілася: навошта яго паласкаць? Яно ж ніколі не было мурзаю: з вады амаль не вылазіць. І не склала лапак, а наадварот — пругка растапырыла іх ва ўсе бакі. Чапля здзівілася. У такім выглядзе яна ніяк не магла праглынуць здабычу. Чапля яшчэ раз раскрыла дзюбу, але Жабяня ўвапхнула ёй у горла сухую чараціну.

Затаіўшы дыханне, жыхары сажалкі пільна сачылі за паядынкам. Выкінуўшы з дзюбы чараціну, Чапля зноў падкінула Жабяня ўгору. Але тое, падаючы, шпурнула ёй у вочы ціну. Чапля ад нечаканасці разгубілася. Пакуль ацерабілася ад ціны, Жабяня востраю асакою аблытала ёй ногі.

Жыхары сажалкі хоць і трымцелі ад страху, але рады былі за малое Жабяня і дружным кваканнем падбадзёрвалі яго.

А Чапля яшчэ больш злавала. Яна разумела, што робіцца пасмешышчам, бо Жабяня ўжо не толькі абаранялася, але і наступала: шпурляла ёй у галаву ўсё, што траплялася пад лапкі. Потым ухапілася за нахіленую чараціну, разгайдалася і сіганула на другую сцяблінку. Як ні старалася Чапля яго дзеўбануць, не магла. Нарэшце ёй гэта абрыдла. Апошні раз яна нацэліла дзюбу на Жабяня, але тое паспела падсунуць ёй ракавінку.

Чапля зноў здзіўлена глянула на Жабяня і ў роспачы падумала: „Хай яго ліха! Праглынеш, а потым яшчэ бяды набярэшся — захварэеш. Усе яны тут нейкія дзіўныя".

І падалася прэч ад сажалкі.

# ФЕЯ ВЯСЁЛКА І КВЕТКІ

Іван Пашкевіч

Добрая фея Вясёлка аблётвала аднойчы свае ўладанні. Стамілася і рашыла адпачыць. Аблюбавала лужок каля рэчкі, спусцілася на белым воблачку, цешыцца: куды ні кінь вокам — кветкі. Падобныя адна на адну, як блізняткі: усе блакітныя.

Ласкава сустрэлі кветкі Вясёлку. Духмяным чаем напаілі, мёдам пачаставалі. А пасля вершы чыталі, песні спявалі — весела было.

Адпачыла фея і далей ляцець сабралася: спраў багата. Напаследак сказала кветкам:

— За гасцінцы цёплыя аддзячыць хачу. Я здзейсню любое ваша жаданне... Ну, хто першы?

Невысокая кволая кветка адразу наперад праціснулася. Сцябло — крывое, тонкае, нават дзіўна, як на ім галоўка трымаецца.

— Я хачу... — загаварыла яна слабым галаском, — каб сцябло маё стройным і моцным было, а галоўка — чырвонай, як вячэрняя заранка. Самай прыгожай хачу стаць!

Выказала жаданне, і яно імгненна збылося: кволая кветка стала прыгажуняй. Забыўшы пра ўсё на свеце, яна пачала любавацца сабой.

— Якая няўдзячная і ганарлівая! Нават не падзякавала добрай феі, — засмуціліся кветкі і апусцілі галоўкі: сорамна за сяброўку стала.

А Вясёлка не пакрыўдзілася, падахвочвае:

— Ну, хто наступны?

Кветкі па чарзе падыходзілі да яе, і жаданні іх адразу збываліся. Кожная выбрала любімы колер: адна — белы, другая — фіялетавы, трэцяя — жоўты... Зноў весела навокал стала, быццам свята прыйшло на лужок. Конікі-музыкі зайгралі, кветкі ў скокі пусціліся.

Сабралася Вясёлка адлятаць. Кветкі абступілі яе, дзякуючы за дабро, запрашаюць часцей прылятаць у госці. Толькі кветка-ганарліўка не падышла да феі. Падняўшы ўгору галоўку, яна па-ранейшаму любавалася сабой.

— Няўдзячная! Правучыць яе трэба! — зашумелі кветкі.

— Добра, — згадзілася фея. — Няхай любуецца сваёй прыгажосцю... толькі ноччу, калі ніхто не бачыць.

Сказала так, села на воблачка і знікла з вачэй.

Надышла ноч. Усе кветкі ляглі спаць. Толькі кветка-ганарліўка ніяк заснуць не можа — любуецца сабой. А раніцай кветкі прачнуліся — ганарліўка спіць. Дарэмна будзілі сяброўку: яна так і не прачнулася ўдзень.

Сумна стала кветцы-ганарліўцы жыць. Зразумела яна, што за дабро трэба плаціць дабром. І цяпер яшчэ чакае фею Вясёлку, каб стаць такой, як астатнія кветкі.



Беларускія гульні

## ПАЦЯГ

Дзеці дзеляцца на дзве роўныя па сіле каманды, якія строяцца ў шарэнгі па адной лініі, спераду — дужэйшыя, ззаду — слабейшыя. Затым усе ігракі бяруць адзін аднаго рукамі за пояс. Паміж камандамі на зямлю кладзецца невялікі прадмет — мета. Першыя ігракі каманд, стоячы над метай, гэтак жа бяруць адзін аднаго за пояс, і каманды пачынаюць павольна цягнуць кожная ў свой бок.

Выйграе каманда, якая здолее разарваць ланцуг другой каманды або перацягнуць яе цераз мету.

## *ПОШТА „ЗОРКІ"*

Як вы правялі канікулы? Што ўбачылі? З кім пазнаёміліся? Дзе былі? Пра што хочацца вам расказаць сябрам-чытачам „Зоркі"? Чакаю вашых лістаў, малюнкаў, здымкаў з канікул...

**„Зорка"**

Васіль Сухамлінскі

## КАМЕНЬ

У лузе, пад разгалістым дубам, шмат гадоў жыла крыніца. Яна давала людзям ваду. Пад дубам каля крыніцы адпачывалі падарожнікі.

Аднойчы да дуба прыйшоў хлопчык. Ён любіў свавольнічаць. Таму і падумаў:

— А што будзе, калі я вазьму вось гэты камень і кіну яго ў крыніцу? Напэўна, моцна булькне!

Падняў ён камень і кінуў яго ў крыніцу. Булькнула моцна. Хлопчык засмяяўся, пабег і забыў пра сваё свавольства.

Камень упаў на дно і закрыў выток у крыніцы. Вада перастала напаўняць крыніцу.

Крыніца засохла.

Засохла трава вакол крыніцы, і дуб засох, бо падземныя струмені пацяклі кудысьці ў іншае месца.

На дубе перастаў віць гняздо салавей. Ён паляцеў на іншы луг. Змоўкла салавейкава песня.

Сумна стала на лузе.

Мінула шмат гадоў. Хлопчык стаў дзядулем. Аднойчы ён прыйшоў на тое самае месца, дзе калісьці быў зялёны луг, стаяў разгалісты дуб, спяваў салавейка, прываблівала прахалодаю крыніца.

Не стала ні лугу, ні дуба, ні салавейкі, ні крыніцы.

Навокал пясок, вецер падымае хмары пылу.

— Куды ж яно ўсё падзелася? — падумаў дзядуля.

## ДУБ ПАД АКНОМ

Малады ляснік пабудаваў у лесе вялікую каменную хату і пасадзіў дуб пад акном.

Міналі гады, вырасталі ў лясніка дзеці, разрастаўся дубок, старэў ляснік.

І вось праз шмат гадоў, калі ляснік стаў дзядулем, дуб разросся так, што закрыў акно. Стала цёмна ў пакоі, а ў ім жыла прыгажуня — лясніковa ўнучка.

— Ссячы дуб, дзядуля, — просіць унучка, — цёмна ў пакоі.

— Заўтра раніцай пачнём, — адказаў дзядуля.

Настаў ранак. Паклікаў ляснік трох сыноў і дзевяцярых унукаў, паклікаў унучку-красуню і сказаў:

— Будзем хату пераносіць у іншае месца.

І пайшоў з рыдлёўкаю капаць канаву пад фундамент.

За ім пайшлі тры сыны, дзевяць унукаў і прыгажуня-ўнучка.

*Пераказаў на беларускую мову*

*Валеры Бабей*

**********************************************************************



*Кот ідзе...* **Фота М. Лукшы**

### Вершы Віктара Шведа

БАБУЛЯ ЯК ТЭЛЕВІЗАР

Пад час канікулаў, улетку,
З душнага горада Ганула
У ціхай вёсцы, на налетках,
Стрэла каханую бабулю.

— Ты ўжо, бабуля дарагая,
Напалавіну пасівела.
Цяпер прыблізна выглядаеш,
Як тэлевізар чорна-белы.

КАРОВА МАЕ ПОЎНЫ БАК

З матуляй і татам
З горада здалёк
Прыехаў фіятам
У вёску сынок.

Адвячоркам Лёва
Адазваўся так:
— Бабулі карова
Мае поўны бак.






— Чаму мяне зноў выклікаюць у школу? Што ты там нарабіў?

— Нічога асаблівага. Кінуў каменьчык у мора...

— Ну і што?

— Глобус разбіўся.

*

Бацька пытаецца ў сына:

— Што сёння было на ўроках?

— На хіміі вывучалі выбуховыя рэчывы.

— А што заўтра будзеце рабіць у школе?

— У якой школе, тата?

**( В. Б.)**

### ПАЗНАЁМІМСЯ

Беларусь, 230010, г. Гродна, бульвар 60 гадоў Кастрычніка, 22, кв. 95, **Наташа Лашэвіч** (11 гадоў, малюе, любіць жывёл, цэніць у чалавеку дабрату і сумленнасць, хоча пасябраваць з дзяўчынкай).

### А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А




**Які з гэтых шнуркоў можна заціснуць у вузялок?**




### БОБ, ТУШАНЫ З ШЫНКАЙ

На 80 дэкаў маладога бобу трэба ўзяць 15 дэкаў шынкі або шынковай каўбасы, 20 дэкаў маленькіх цыбулек, 2 лыжкі алею, адну лыжку масла, 1 лыжку шалфею, соль, цукар, перац.

Боб спаласнуць, усыпаць у каструлю з кіпячай вадой. Варыць пад пакрыўкай на працягу пяці мінут. Тады адцадзіць боб, паліць яго на сіце халоднай вадой, а пасля вылушчыць зярняты са скуркі. Шынку ці шынковую каўбасу нарэзаць макаронікам. Малыя цыбулінкі ачысціць, спаласнуць, нарэзац ь пер'ямі, перамяшаць з шалфеем, палажыць у каструльку з разагрэтым алеем і падаграваць на невялікім агні. Калі цыбуля змякчэе, дадаць шынку, перамяшаць, тушыць некалькі мінут пад пакрыўкай, а тады дадаць ачышчаны боб. Даліць гарачай вады, пасаліць, пасыпаць перцам і варыць пад пакрыўкай, пакуль боб не стане мяккі. Зярняты бобу павінны захаваць сваю форму, нельга дапусціць да таго, каб яны разварыліся. У часе варкі вада павінна выпарыцца. У звараную страву дадаць масла, перамяшаць, праверыць смак, дадаць солі, перцу і крыху цукру. Падаваць як самастойную страву, да якой можна дадаць некалькі крутых яек, нарэзаных кружочкамі.

### ФАРШЫРАВАНЫЯ КАБАЧКІ ЦІ ЦУКІНІЯ

На 4 малыдыя цукініі даўжынёю каля 20 см або два маладыя кабачкі трэба ўзяць 3 крутыя яйкі, 2 лыжкі смятаны, 4 лыжкі зялёнай пятрушкі (калі ёсць зялёная цыбулька, дык перамяшаць яе з пятрушкай), 2 лыжкі сцертага жоўтага сыру, 3/4 шклянкі бешамелевага соусу, соль, перац, 1 лыжку масла.

Цукінію ці кабачок памыць, асушыць. Кабачок абабраць, пераразаць уздоўж напалавіну, выняць з яго сярэдзіну з насеннем. Цукінію не абіраем, а толькі вымаем з яе сярэдзіну. Абабраць яйкі, раздушыць іх вілкай, перамяшаць з бешамелевым соусам, смятанай і зелянінай, заправіць па смаку соллю і перцам. Падрыхтаваную цукінію ці кабачкі палажыць у гарачую пасоленую ваду і абварваць цукінію на працягу 5 мінут, а кабачок 10 мінут, а тады адцадзіць. Абвараныя палавінкі гародніны напоўніць падрыхтаваным фаршам, палажыць у вогнетрывалы посуд, змазаны маслам, пасыпаць цертым сырам, уставіць у гарачую д ухоўку і запячы.

### САЛАТА З ЦУКІНІІ ЦІ КАБАЧКА

На 60 дэкаў цукініі ці маладога кабачка трэба ўзяць 30 дэкаў пячурыц, 10 дэкаў маладых цыбулінак, 5 зубкоў часнаку, паўшклянкі маянэзнага соусу, 4 лыжкі пасечанай зялёнай пятрушкі, соль, перац, лімонны сок ці вінны воцат, 2 крутыя яйкі.

Цукінію ці кабачок падрыхтаваць так, як у папярэднім рэцэпце, зварыць, астудзіць, нарэзаць костачкай. Пячурыцы ачысціць, памыць, абварыць на працягу 3 мінут, астудзіць, дробна нарэзаць, таксама костачкай. Перамяшаць грыбы з нарэзанай гароднінай, дробна нарэзанай цыбулькай, соусам, пятрушкай і пасечаным часнаком. Дадаць лімоннага соку, солі і перцу. У салатніцы аблажыць салату навокал часцінкамі яек.

**ГАСПАДЫНЯ**




Калісьці, Сэрцайка, я глядзела італьянскі фільм, здаецца, паводле апавядання Альберта Маравіі. У адным з апавяданняў была гутарка пра падарожжа цягніком. У купэ ехала двое незнаёмых людзей: прыгожая жанчына сярэдніх гадоў і малады італьянскі салдат. Яны маўчалі, размаўлялі між сабою толькі позіркамі. Іх позіркі з часам усё цяплелі і цяплелі, і ўрэшце дайшло да апагея: жанчына без слова распранулася і аддалася гэтаму салдату. Ён, поўны пачуцця і надзеі, выходзіць за ёю, калі цягнік спыніўся на апошняй станцыі. Але яна кідаецца ў абдымкі свайго мужа — маёра і адыходзіць з ім, пакінуўшы свайго астаўбянелага ад нечаканасці салдата на пероне.

Гэты фільм успомніўся мне сёлета, калі вярталася я з падарожжа ў Маскву. Мае сябры афармілі мне білет дахаты ў савецкім спальным вагоне. Я думала, што ў іх там так, як і ў нас: ёсць купэ жаночыя і ёсць мужчынскія. Вельмі я здзівілася, калі ў цягніку высветлілася, што едуць са мною яшчэ адна маладая жанчына і двое сяброў-вайскоўцаў. Аказваецца, што ў савецкіх цягніках няма асобных купэ для мужчын і жанчын.

Цягнік рушыў, калі ўжо змяркалася. Я неяк не магла рашыцца адразу класціся ў такой кампаніі, седзячы ля вакна, спаглядала на мільгаючыя краявіды. Мужчыны ўступілі месцы ўнізе нам, жанчынам, і мая спадарожніца пачала ўкладвацца насупраць мяне.

Раптам адзін з вайскоўцаў-лётчыкаў выцягнуў з рукава паўлітра. Усім наліў у шклянкі. Жанчына адмовілася, а я крыху глытнула. Мужчыны разлажылі закуску і дапілі бутэльку да канца.

Калі яны палезлі на свае верхнія паліцы і згасілі святло, я вырашыла таксама легчы. Прылегла, не распранаючыся, і накрылася пледам. Як спаць у цягніку? — Ляжала і думала. Жанчына ціхенька пахрапвала. Раптам адзін з сяброў ссунуўся са сваёй паліцы ўніз і сеў каля маіх ног.

Я насцярожылася... Пачаў гладзіць мяне па нагах праз коўдру. Дакрануўся да грудзей. Я, злосная, села. Быў, аднак, вельмі далікатны і, трэба сказаць, умеў здабываць жанчын. Я не заўважыла, як ён пачаў цалаваць мяне па грудзях, а пасля і прылёг каля мяне. Не ведала я проста, што раблю. Адным словам, скончылася так, як у Альберта Маравіі.

З цягніка вайскоўцы выйшлі разам са мною ў Варшаве. Я ледзь паспела ўціснуць у руку „майго" лётчыка свой адрас. І думаю цяпер: мо дзе і выкінуў яго, ён жа, бадай, чалавек жанаты... Але чакаю. Жыву адна, змагу заўсёды яго прыняць. Засталіся незабыўныя ўражанні.

**Анастасся**

Анастасся! Калі Альберта Маравія пісаў тое апавяданне, не было яшчэ чуваць пра AIDS!

Розніца толькі ў гэтым.

**СЭРЦАЙКА**

********************************************************




Астроне, мне прысніўся надта дзіўны сон. Быццам бы я маю ў роце зубны пратэз, зубы ў ім белыя, але нейкі ён слабы, быццам бы зроблены з гіпсу. Не ведаю, дзе якраз я знаходзілася ў той момант, але раптам зубы пасыпаліся ў мяне з рота. Я падумала, што трэба ж ісці да дантысткі. Але як жа тут ісці, калі я зубоў не пачысціла! Я так перажываю, і на гэтым прачнулася.

Прыйшоўшы на работу, я расказала сяброўцы пра гэты сон. А яна мне адразу і кажа, што калісьці ёй прысніўся надта падобны сон. Быццам бы на Рынку Касцюшкі стаяў яе стары дзядзька. І раптам яна бачыць, што ў яго з пратэза пасыпаліся зубы. Яна вельмі перапужалася і адразу напісала табе, Астроне, ліст. Вечарам пазваніла дзядзьку, бо вельмі непакоілася, ці што з ім не здарылася. Цётка адказала, што ўначы забралі ў бальніцу іхняга ўнука, якому зрабілі неадкладную аперацыю, бо быў у яго апендыцыт. Сяброўка падумала, што вось яе сон і спраўдзіўся. А праз два тыдні прачытала ў „Ніве" і твой адказ на яе сон. А пісаў ты аб тым, што сон гэты не прадвяшчае смерці, бо зубы пасыпаліся не натуральныя, а з пратэза, а паколькі не было крыві, дык тым больш не абазначае смерці нейкага кроўнага. Можа абазначаць, аднак, хваробу дзядзькі альбо блізкага яму чалавека. Адным словам, ты правільна ўгадаў, што абазначаў сон маёй сяброўкі.

Я паслухала яе, ды кажу, што трэба мне пайсці да дантысткі, а сяброўка адказвае мне, каб пайшла я і правярылася лепш у нейкага тэрапеўта, бо гэты сон можа зусім не датычыцца зубоў, а іншай хваробы, а мо нават хваробы якогасьці майго сваяка.

І так мы гутарылі, а я непакоілася. І раптам пазваніў тэлефон. Мая дачка прасіла, каб як мага хутчэй прыбегла я дахаты. Яна ўжо выклікала „хуткую дапамогу", але хоча, каб і я была пры гэтым. Мой унучак выліў сабе на нагу гарачую каву. Дачка, знімаючы з яго панчошкі, зняла разам з імі і скуру. Я, кінуўшы ўсё, пабегла дахаты. Нага дзіцяці выглядала страшна.

Ну, вось бачыш, Астроне, што не паспела я табе напісаць, просячы парады, а сон ужо і спраўдзіўся.

**Валя**

Валя! Пісьмо тваё прымаю да ведама.

**АСТРОН**

## ЗАПРАШЭННЕ Ў МУЗЕЙ

Беларускі музей у Гайнаўцы сардэчна запрашае наведаць выстаўку карцін таленавітай мастачкі ТАМАРЫ ТАРАСЕВІЧ з Белавежы. Выстаўка будзе адкрыта да 15 кастрычніка 1991 года. Апрача карцін, можна яшчэ паглядзець часовую выстаўку экспанатаў, сабраных Грамадскім камітэтам пабудовы музея.

Беларускі музей у рабочыя дні працуе ў гадз. 10— 17, а ў святочныя — 11—16. Музей змяшчаецца ў Гайнаўцы на вул. 3 Мая 42.

## З ПАРТФЕЛЯ ЮРЫЯ БУЗУКА

*****************************





„На здымках — Цехановіч, імя яго было Ёсіф, здаецца, і яго жонка, Лейка, яўрэйка. У 1920 годзе перайшла на праваслаўную веру. З Навагрудскага раёна, вёска Лабачы, каля Багудзенкі. Цехановіч быў кравец-самавук, вучыўся ў вясковага краўца. Вялікі быў талент, і дастаў майстэрскія дакументы. У Навагрудку меў майстэрню І катэгорыі, шыў дасканалыя фрэнчы. Усіх абшываў. Не ведаю, ці перажылі яны вайну. Хацелася б пабачыць знаёмыя твары са здымкаў, але час бяжыць..."

**(лук)**

## КАЛЕЙДАСКОП ЖАРТАЎ

Дваццаць пяць гадоў я і мая жонка былі шчаслівымі людзьмі, — гаворыць Ота свайму прыяцелю Фрыцу.

— А потым... што ж трапілася потым? — дзівіцца Фрыц.

— А потым мы з ёю сустрэліся, — у роспачы гаворыць Ота.

* * *

— Вы мне, Карл, нагадваеце акіян, — кажа Моніка свайму кавалеру.

— Гэткі ж няўрымслівы, рамантычны і неспакойны?! — гукае той.

— Ды не, проста ад вас мяне нудзіць...

* * *

— У газеце пішуць, абураецца Амалі, — што на Усходзе можна жонку абмяняць на каня! Ты б гэтага не зрабіў, Ота?

— Ні ў якім разе, Амалі, — пратэстуе мужык. — Я б абмяняў цябе самае меншае на аўтамабіль.

* * *

Месяц-маладзік і тысяча зоракззялі ў нябесным блакіце. Недзе далёка гаўкалі сабакі... Нарэшце ён адважыўся:

— Калі з табою ажанюся, любая, возьме твой бацька мяне ў кампаньёны?

— Думаю, што возьме, Карл.

— А твая маці купіць нам будынačак?

— Думаю, што купіць, Карл.

— А твой дзед падарue нам аўто?

— Мабыць падарue, Карл.

— І ты, любая, выйдзеш за мяне замуж?

— Не, Карл!

* * *

Яна: — Мяне прасілі выйсці замуж безліч разоў!

Ён: — Хто ж вас прасіў?

Яна: — Бацька з маці.

* * *

— Чулі — дачка Браўна выходзіць замуж?!

— Каму ж усміхнулася такое шчасце?

— Браўну!

*З нямецкай мовы пераклаў*
*Пятрусь Капчык*







*Мал. З. Раманоўскага („Карузеля")*

## КАЛІ БУДЗЕ ПАРАДАК?

Бог з'явіўся ў Брэжнева, Ніксона і Пампіду.

— Калі ў Францыі будзе парадак? — спытаў Бога Пампіду.

Бог падумаў і сказаў: „Праз трыццаць гадоў".

Пампіду заплакаў: „Я да гэтага не дажыву!"

Пытае Бога Ніксон: „Калі ў ЗША будзе парадак?"

— Праз пятнаццаць гадоў, — адказаў Бог.

Ніксон заплакаў: „Я да гэтага не дажыву!"

Пытае Бога Брэжнеў:

— Калі ў СССР будзе парадак?

Бог заплакаў: „Ой, я да гэтага не дажыву".

## АФАРЫЗМЫ

Хто зброю носіць, той мірнага дабра ў Бога не ўпросіць.

* * *

Дзе сіла ўладу трымае, там дэмакратыя прападае.

* * *

Найгоршыя тыя кіпцюры, якія высоўваюцца з-пад крылляў рэлігіі.

* * *

Нават і д'яблы маюць свой ланцуг салідарнасці.

**Язэп Карпюк**

## ЗНАК ЧАСУ

—У мяне было дзесяць яблык і я з'еў два. Колькі яблык асталося? — пытае бацька сына, які ходзіць у першы клас.

— Не ведаю! Мы рахуем толькі на апельсінах і бананах.

## ПАСЛЯ ВІЗІТА

— І як там? — пытаюцца вучні аднаго з калегаў, які наведаў хворага настаўніка дома.

—Вельмі кепска. Паслязаўтра вяртаецца ў школу.

## КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ

—Здаецца ў вас нарадзілася сястрычка, а я ж чула, што твой бацька ўжо тры гады за граніцай...

— Так, але часта піша!

## ІТАЛІЯ

— Што табе напамінае сваім кшталтам Італія?

— Гумавы бот.

— Чаму гумавы?

— Бо навокал яе вада.



**ВАСІЛЬ КРАЎЧУК**

# МАГНІТНЫЯ БУРЫ

*(Гумарэска)*

Цяжка зараз жыць на свеце. Хіба калісьці чалавек мог бы нават уявіць, што цяпер зваліцца на яго бедную галаву?

Падумаць толькі. Радыяцыя, хімізацыя, кааперацыя, талонізацыя, купонізацыя, гербіцыды, пестыцыды, нітраты...

І ўсё гэта прэ на чалавека. Робіць уплыў на яго здароўе. Адкладваецца, труціць, руйнуе... Адным словам, скарачае жыццё і гады.

А тут яшчэ магнітныя буры. Неспрыяльныя дні.

Адкажыце, ці чулі вы калісьці пра гэта ў гады застою? Нічога падобнага тады не было. І не магло быць. Светлы шлях, па якім мы крочылі да камунізму, у той застойны час не мог быць азмрочаны неспрыяльнымі днямі. А зараз столькі дзён хоць выкрэслі з жыцця.

Вось скажам, прыносіць паштальён у нашу сям'ю часопіс „Здароўе". Я яго амаль не чытаю. Але ёсць у ім паведамленні, якія акуратна выпісваю для сябе ў блакнот, каб сцерагчыся на ўсялякі выпадак. Бо гэта ж не жарт. А магнітныя буры, якія негатыўна ўплываюць на нашага брата! І пра гэта трэба напомніць, каб яна хаця б у гэтыя дні была міласцівай. Бо так толькі раней казалі, што мужчыны гэта, маўляў, моцны пол. Цяпер гэты выраз безнадзейна ўстарэў, бо ён не адпавядае рэчаіснасці.

Жанчыны і працуюць лепш. І жывуць даўжэй. І магнітныя буры лепш пераносяць. А тут, калі ўжо пачнуцца гэтыя магнітныя буры ў пятніцу, то да панядзелка не ачухаешся.

Ляжу неяк вечарам. Пакутую страшэнна. Галава раскалваецца, як ідэалогія застойных часоў. У ёй гудзе, як у парожным чыгуне, з якога выперла ўсю брагу. А тут і яна, мая жоначка, заяўляецца. Глянула так пагардліва з „агідай"...

— Што? Пакутуеш, — кажа, — з перабора. Насмактаўся? Пайшоў бы хоць хлеба купіў. Хаця б гэта з цябе карысць была. Тут матаешся цэлы дзень. А ён ужо ў кандыцыі. Ну што мне рабіць з такім мужам?

І яна яўна пачала рыхтавацца да канфрантацыі. З плачам, з праклёнамі і іншымі дэструктыўнымі з'явамі.

— Пачакай! Ты толькі паслухай мяне, — жалабна енчу я. — Табе толькі б прынізіць мяне.

— А ці ведаеш ты, што заўтра магнітныя буры? І яны ўжо сягоння пачынаюць мяне мучыць. Вучоныя даказваюць, што на мужчыну тыя буры ўздзейнічаюць больш, чым на жанчын. Ты ж спакойна сабе ходзіш на двух. А я і на чатырох не магу.

Прыдзецца вось так пакутаваць некалькі дзён, пакуль тыя буры не супакояцца ў космасе. А які ўплыў яны робяць на сэрца, ты і не ведаеш. А сэрца ў мяне не вельмі... Вось возьме і спыніцца раптам. Што тады будзеш рабіць? Плакаць будзеш? А будзе ўжо позна.

І калі я раптам памру заўтра ці паслязаўтра, то ты мне хоць перад смерцю прызнайся, ці праўда, што калі я ездзіў у камандзіроўку, то да цябе прыходзіў той мардасты Грыцько Пятрук? Бо памру і не буду ведаць праўды. Грэх тады табе будзе. Ох, цяжка мне, цяжка...

Задаў я, значыць, ёй такое каверзнае пытанне, закаціў вочы і чакаю, што яна мне адкажа. А сам стаю і крахчу, бо і праўда, здаецца, што паміраю.

А яна падыйшла бліжэй. Скептычна скрывілася, паматала галавой і кажа з насмешкай:

— Добра калі памрэш. А калі будзеш жыць? Га?

Павярнулася і пайшла на кухню, грукнуўшы дзвярыма так, што аж трэшчына на стале з'явілася, пакінуўшы мяне адзін на адзін са смерцю.

*Пераклаў з украінскай*
*Валеры Бабей*

**************************************************




„Niwa", ul.Suraska 1, 15-950 Białystok skr. pocz. 149, tel. 210-33.
Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne, 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11.
Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

**Białoruski Tygodnik Społeczno-Kulturalny sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. *Рэдагуе калектыў: Мікола Ваўранюк, Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Мірaслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга (адказны сакратар).*

I.Prenumerata pocztowa
1.Termin wpłat na prenumeratę pocztową na I kwartał 1992 r. upływa 20 listopada 1991 r.
2.Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 19.500 zł + 6.500 zł za doręczenie.
3.Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.
Nr. konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.
II.Prenumerata własna - prowadzona przez wydawcę.Cena 1 egz.z wysyłką wynosi 2.500 zł.

Cena prenumeraty miesięcznej:
- październik - 10.000 zł.
- listopad - 10. 000 zł.
- grudzień - 12 500 zł
Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.